Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!






# МАГІЛЕЎШЧЫНА

## да дзесятае гадавіны Кастрычнікавай Рэвалюцыі









Выдаў Магілеўскі акруговы выканком.
7/XI 1927.

# На шляхох узросту сацыялістычнага будаўніцтва ў акрузе.

**(Замест прадмовы).**

*Артыкул старшыні акруговага выканаўчага камітэту.*

Пражыта 10 гадоў, падобных якім ня ведала гісторыя...

Час прайшоў значны, але-ж у нашага рабочага і працоўната селяніна надоўга застанецца памяць аб пераЖытым цяжкім рабскім мінулым царызму, аб мінулым буржуазна-панскага ладу.

Побач з гэтым, назаўсёды захаваецца памяць і аб тым, як рабочая кляса разам з бяднейшым сялянствам, пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў, рыхтавалася к рашучай барацьбе з буржуазіяй і панамі, як змагалася ў гэтай барацьбе ў Кастрычнікавыя дні, як абараняла дасягнутую перамогу і як па свойму, на рабоча-сялянскаму, будавала новае жыцьцё, будавала новую сацыялістычную краіну Саветаў.

Праверка пройдзенага працоўнымі дзесяцігадовага шляху, падлік дасягнутых посьпехаў, праверка недахопаў і памылак у нашей працы з тым, каб ісьці яшчэ больш шпарка, яшчэ больш рашуча па шляху будаваньня сацыялізму—вось што павінна быць галоўным у зьмесьце Вялікага з вялікіх сьвят працоўных—дзесяцігодзьдзя Кастрычнікавай рэвалюцыі.

Магілеўшчына перажыла цяжкія гады панаваньня царызму, буржуазіі і акупантаў. Рашучая схватка з буржуазіяй і з панамі, барацьба з буржуазным капіталістычным ладам на Магілеўшчыне адбывалася ў асаблівых умовах.

З прычыны канцэнтрацыі контррэвалюцыйнай сілы ў Магілеве навакол стаўкі вярхоўнага галоўнакамандуючага і пры нязначнасьці рабочае клясы, тут патрабавалася дапамога Магілеву ад пралетарыяту Ленінграда і Масквы і іншых рабочых цэнтраў, каб зьліквідаваць засеўшую ў стаўцы контррэвалюцыю. Царскія генэралы для барацьбы з пралетарыятам сканцэнтравалі ў Магілеве „надзейныя“, па іх думцы, вайсковыя часткі (георгіеўскі

батальён), але-ж у рашучы момант генэралы не знайшлі падтрыманьня ў гарнізоне і асінае гняздо контррэвалюцыі—стаўка паўстаўшымі рабочымі і салдатамі было зьнішчана.

Пасьля гэтае перамогі ў 1917 годзе, працоўныя Магілеўшчыны перанесьлі польскую і нямецкую акупацыі. Многа гора, многа бязьлітасных зьдзекаў пераяжыў рабочы і селянін у гэтыя цяжкія месяцы наступленьня чужаземнай буржуазіі к Дняпру. Аграмадная колькасьць ахвяр. . пакуты...

Але працоўныя перемаглі. Чырвоны сьцяг зноў падняты. Рабочыя і сяляне Кастрычнікавыя заваёвы адстаялі.

У гады грамадзянскае вайны працоўныя Магілеўшчыны—слаўныя байцы на передавых лініях чырвоных франтоў, на захадзе і усходзе, на поўначы і на поўдні. Тысячы чырвоных партызан у пэрыяд акупацыі. Тысячы чырвоных гвардзейцаў у 1917 годзе, а потым дзесяткі тысяч чырвонаармейцаў дала Магілеўшчына

Мірнае будаўніцтва на Магілеушчыне пачалося аднačасова з усімі часткамі Савецкага Саюзу—па сканчэньні грамадзянскай вайны. У цяжкіх умовах прышлося пачынаць гэтае будаўніцтва. Прамысловасьць амаль уся была разбурана, гарады таксама, заводы не працавалі, сельская гаспадарка прышла ў заняпад.

Але-ж прашло толькі 5—6 гадоў мірнае працы, і Магілеўшчына ня толькі аднавілася, але і ў значнай меры вырасла. Прамысловасьць, якая засталася ў спадчыну ад царскага ладу, ня толькі аднаўлена, але і ў значнай меры пераабарудавана, асабліва буйныя прадпрыёмствы (Шклоўская папяровая фабрыка, шкляны завод і іншыя), Узмацнела мясцовая камунальная прамысловасьць. Апрача рамонтаў існаваўшых предпрыёмстваў, за апошнія два гады прароблен цэлы шэраг капітальных рамонтаў, пабудованы і будуюцца новыя прадпрыёмствы (электрастанцыя, лесапільны завод, млын у Клімавічах, электрастанцыі ў Шклове, Чавусах і Быхаве, сілікатны завод у Клімавічах, прыступлена к пабудове новых водаправоду і электрастанцыі ў Магілеве).

Наступныя няпоўныя лічбы красамоўна гавораць за нашы дасягненьні у прамысловым будаўніцтве: уложана у капітальны рамонт у 1925 годзе—31,811 руб., у 1926 годзе--115,685 руб. і у 1927 г.—315,000 руб.

З кожным годам паляпшаецца становішча рабочых, занятых у вытворчасьці. Расьце вытворчасьць прадпрыёмстваў, і такім чынам з кожным годам усё больш і больш павышаецца удзельная вага дзяржаўнай прамысловасьці ва усёй народнай гаспадарцы.

У галіне сельскае гаспадаркі мы маем ня толькі колькаснае павялічэньне зямлі ў карыстаньні сялянства, за кошт быўшых

абшарніцкіх зямель, але і вялізарнейшыя дасягненьні ў якасным (качественном) росьце сельскае гаспадаркі.

Шляхам правядзеньня шэрагу мерапрыемстваў па аказаньню дапамогі беднаце, з кожным годам паступова узмацняецца гаспадарчае становішча бедняка ў вёсцы.

Калі да рэвалюцыі было земляўпарадкована ў акрузе толькі каля 15 працантаў усяе зямельнае плошчы, то к 1927 году ўжо земляўпарадкована звыш 40%. Маецца вялізарны рост пераходу на культурныя спосабы апрацоўкі зямлі, на разьвіцьцё пасева траў, тэхнічных культур, на разьвіцьцё племяннное жывёлагадоўлі.

Расьце і мацнее сельскагаспадарчая каапэрацыя—форма сацыялістычнага перабудаваньня сельскае гаспадаркі.

Расьце і якасна паляпшаецца праца спажывецкай каапэрацыі.

Вялізарнейшыя дасягненьні маюцца ў будаўніцтве школ, больніц, як у горадзе, так і на вёсцы, і гэта будаўніцтва відавочна і адчуваецца кожным рабочым, кожным селянінам.

Таксама вялізарныя дасягненьні маюцца ў працы нізавых саветаў; уцягненьне ў гэткую шырокіх колаў працоўных, рабочых і сялян, усё павялічваецца, нізавыя саветы набліжаюцца да працоўных мас, а павялічэньне гарадзкога і сельскага актыву, праца яго ў камісіях і сэкцыях—яскрава сьведчаць аб аўладаньні пралетарыятам справы кіраўніцтва краінаю.

Павялічэньне колькасьці нацыянальных саветаў, нацыянальных школ, дзіцячых дамоў і дзіцячых садоў, падвядзеньне пад нацыянальнае пытаньне эканамічнай базы – сьведчаць аб прадастаўленьні поўных усебаковых магчымасьцяў разьвіцьцю нацыянальных культур.

Падлічваючы вынікі нашае працы к дзесяцігодзьдзю Кастрычнікавай рэвалюцыі і праверяючы нашу працу, мы маем магчымасьць адзначыць аграмаднейшыя посьпехі, якія дасягнуты працоўнымі Магілеўшчыны за гады мірнага будаўніцтва, разам з працоўнымі Савецкай Беларусі і Савецкага Саюзу

Ва ўмовах нашае беднасьці, разбуранае гаспадаркі, ва ўмовах абкружэньня ворагамі—толькі рабочыя і працоўныя сяляне пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі маглі мець гэтыя вялізарнейшыя посьпехі.

Уступаючы ў другое дзесяцігодзьдзе Кастрычніка, мы усі тым-жа шляхам, также рашуча і з яшчэ большым запалам будзем прадаўжаць, разам з партыяй Леніна і пад яе правільным праверяным кіраўніцтвам, справу сацыялістычнага будаўніцтва.

*Цзьякаў.*

# 10 год Савецкай улады ў Магілеўшчыне.

## Калі мяжою быў Дняпро..

Пасьля акупацыі горада Магілева і заходняй часткі Магілеўшчыны (у тэй час Магілеўскага павету) Савецкая улада моцна заснавалася на левым баку Дняпра.

Гісторыяй было прызначана, каб прадмесьце Магілева-Лупалава паслужыла першым цэнтрам арганізацыі і замацаваньня Савецкай ўлады ў Магілеўшчыне. Уся паўната улады на Лупалаве сканцантравалась у руках Лупалаўскага выканаўчага камітэту, які тэрытарыяльна аб'яднаў, акрамя Лупалава, яшчэ быўшую Вейнянскую і Зарудзееўскую воласьці, у якіх былі з'арганізаваны саветы дэпутатаў.

Такім чынам, рака Дняпро падзяляла Магілеўшчыну на дзьве часткі. У аднэй пераліваласся, узмацнялася і падрыхтоўвалася к будаўніцтву новага жыцьця абуджаная Кастрычнікам рэвалюцыйная сіла рабочых і сялян. У другой—акупанты разам з абшарнікамі. якія яшчэ чапляліся за свае маёнткі, у бясьсільнай злабе гвалтавалі і зьдзекваліся над працоўнымі. Дажывалі свае апошнія дні, бо Кастрычнік не жадаў лічыцца з тэрытарыяльным разьмежаваньнем Магілеўшчыны, якое зрабіла акупацыя, і рашуча ішоў уперад, заражаючы рэвалюцыйнам запалам рабочых і сялян акупаванай часткі.

Лупалава адыграла таксама і другую ролю: тут згуртоўвалася, праз арганізаваныя прафсаюзы, моцнае рэвалюцыйнае ядро рабочых.

Лупалаўскі выканкам падтрымліваў шчыльную сувязь з працоўнымі Лупалава і належачых да яго вышэйпаказаных валасьцей праз так званыя агульныя сходы саветаў рабочых, чырвонаармейскіх і сялянскіх дэпутатаў, з удзелам прадстаўнікоў валасьцей, прафсаюзаў і загадчыкаў устаноў. У пратаколах гэтых сходаў чырвонай істужкй праходзяць упэўніваньні прадстаўнікоў у тым, што сяляне і рабочыя гатовы „да апошняй каплі крыві забараняць Савецкую ўладу". Напрыклад, прадстаўнік Зарудзееўскай воласьці на такім агульным сходзе 15 верасьня 1918 г. заяўляе наступнае:

—Сяляне Зарудзееўскай воласьці ўпаўне падтрымліваюць Савецкую ўладу і дзякуюць камуністычную партыю за прысылку агітатараў у воласьць.

На другім падобным сходзе 22 верасьня 1918 г. прадстаўнік саюза настаўнікаў завярае сход, што настаўнікі, ня гледзячы на галодны час, працуюць не за пэнсію, а толькі на карысьць народу.

—Хоць цяпер і прыходзіцца часам уздыхнуць галодным уздыхам, але гэта зьявішча часовае, — заканчвае сваё слова гэты прадстаўнік.

Арганізацыйная пабудова Савецкай улады на Лупалаве, ня гледзячы на тое, што Лупалаўскі выканкам аб'яднаў зусім маленькую тэрыторыю Лупалава і 2 быўш. валасьцей, была вельмі вялізнай: тут былі мытны аддзел, аддзел унутраных спраў, ЧК, грашовы аддзел, земаддзел, савет нар. гаспадаркі, прадком, аддзел нарасьветы і аддзел аховы здароўя.

## 31 кастрычніка 1918 году—канец акупацыі.

Акупацыя заходняй часткі Магілеўшчыны і г. Магілева цягнулась 8 месяцаў, з 2 сакавіка па 31 кастрычніка 1918 году. У гэты дзень зараз-жа пасьля ўходу з Магілева акупацыйных войск савецкая ўлада з Лупалава перайшла ў Магілеў, дзе быў з'арганізаваны губэрнскі рэвалюцыйны камітэт.

Такім чынам, Магілеўскі павет, які аб'яднаў тады 13 валасьцей, зноў увайшоў у склад быўшай Магілеўскай губэрні.

У першы тэрмін пасьля акупацыі, адначасова з утварэньнем губрэвкому, ува ўсіх валасьцёх Магілеўскага павету былі таксама з'арганізаваны валасныя рэвкомы, прычым першымі арганізатарамі іх былі партыйныя ячэйкі, якія працавалі у часе акупацыі ў падпольлі. **Рэвкомы праіснавалі кароткі тэрмін і к сьнежню 1918 года былі заменены валвыканкамамі.**

На першым павятовым зьездзе саветаў рабочых, чырвонаармейскіх і сялянскіх депутатаў, які адбыўся 22 сьнежня 1918 г., быў абраны Могілеўскі павятовы выканаўчы камітэт у складзе 11 членаў і 3 кандыдатаў.

На зьездзе прадстаўнікі з месц гаворылі аб цяжкасьці розных павінасьцяў, якія нясло сялянства і якія былі абумоўлены знаходжаньнем у тэй час Магілеўшчыны ў прыфрантавой паласе, і адначасова выразна адзначалі разьвіцьцё у той час клясавай барацьбы на вёсцы.

Большасьць дэпутатаў зьезду адзначала, што насельніцтва ў вёсцы падзелена на два лягеры: беднату, якая спачувае Савецкай уладзе, і кулакоў, якія настроены супроць.

У маі 1919 г. Магілеў перажыў адно з значных пасьля рэвалюцыі здарэньняў—перавод цэнтра губэрні у Гомель, з перайменьнем губэрні ў Гомельскую, у складзе якой Магілеўскі павет знаходзіўся да моманту далучэньня яго да Беларусі.

У момант знахаджэньня Магілеўскага павету ў Гомельскай губэрні, яго адміністрацыйна-тэрытарыяльны склад некалькі разоў зьмяняўся: спачатку былі узбуйнены некаторыя воласьці Магілеўскага павету, а ў 1922—1923 годзе было зроблена узбуйненьне і самога павету, шляхам ліквідаваньня Чавускага і Быхаўскага паветаў і далучэньня іх да Магілеўскага. К 1924 году Магілеўскі павет складаўся з 13 валасьцей.

## Далучэньне Магілеўшчыны да Беларусі.

1924 год у жыцьці Магілеўшчыны быў выключна выдатным годам: Магілеўскі павет далучаецца да Беларускай рэспублікі. 18 ліпеня 1924 году утвараецца Магілеўская акруга ў складзе 10 раёнаў: Магілеўскага, Лупалаўскага Шклоўскага, Чавускага, Быхаўскага, Бялыніцкага, Чачэвіцкага, Журавіцкага, Прапойскагаі Кармянскага. Узбуйненьне Магілеўскай акругі было зроблена за лік частак быўш. Рагачоўскага, Калінінскага, Барысаўскага, Чэрвенскага і Горацкага паветаў. Адначасова, Магілеўскі павет аддаў паўночна-заходнюю частку (сучасны Круглянскі раён, утвораны з быўшых валасьцей Круглянскай, Цяцерынскай і Кручанскай)—Воршы.

Гэта раёнаваньне мела мэтай ня толькі ўтварэньне моцных адміністрацыйных адзінак, але і складаньне праз злучэньне аднолькавых у эка-

намічных адносінах і цягацеючых адна да аднэй тэрытарыяльных адзінак грунту дзеля разьвіцьця гаспадарчай працы.

Далучэньне да Беларусі было вялікім гістарычным момантам, які паклаў адзнаку на усё далейшае жыцьцё Магілеўшчыны, бо з гэтага часу справа сацыялістычнага будаўніцтва і будаваньня нацыянальнай культуры ў Магілеўшчыне пачалі разьвівацца больш шырокім тэмпам.

Такім чынам Магілеўшчына, абмяжованая ў складзе быўш. Гомельскай губэрні толькі Магілеўскім паветам, паступова аб'яднала навакол сябе тыя прылягаючы да яе часткі, якія пасьля зьліквідаваньня Магілеўскай губэрні і перанясеньня губэрнскага цэнтру ў Гомель ва ўвесь час цегацелі эканамічна і культурна к свайму быўшаму губэрнскаму цэнтру.

Але-ж з далучэньнем Магілеўшчыны да Беларусі гэта аб'яднаньне цягацеючых да яе частак яшчэ ня скончылася, і, актам ураду ад 9 червеня 1927 г., да Магілеўскай акругі далучаюцца яшчэ 8 раёнаў зьліквідаванай Калінінскай акругі, як-та: Бялынкавіцкі, Касьцюковіцкі, Краснапольскі, Крычаўскі, Мілаславіцкі, Хоцімскі, Чэрыкаўскі і Клімавіцкі, прычым адначасова Бялынкавіцкі і Мілаславіцкі раёны ліквідуюцца і ўваходзяць цалкам: першы—у Касьцюковіцкі, а другі—у Клімавіцкі раёны.

Такім чынам, сучасная тэрыторыя акругі аб'яднае 16 раёнаў з насельніцтвам, уключаючы і г. Магілеў—826.152 чал.

Па старым статытычным даным, на першае студзеня 1925 г., нацыянальны склад насельніцтва Магілеўскай акругі ў старых межах і быўш. Калінінскай акругі быў такі:

| | Магілеўск. акруга. | Калінінск. акруга. |
|---|---|---|
| беларусаў . . . . . . . . . . | 61,88% | 70,16% |
| расейцаў . . . . . . . . . . | 26,87% | 19,51% |
| палякаў . . . . . . . . . . | 1,24% | 0,26% |
| яўрэяў . . . . . . . . . . | 9,36% | 9,73% |
| іншых . . . . . . . . . . | 0,65% | 0,34% |
| | 100% | 100% |

## Як мы вырашаем нацыянальнае пытаньне.

У Савецкім Саюзе няма прыгнечаньня аднэй нацыі другою. Аднэй з вялікіх заваёў Кастрычнікавай рэвалюцыі было тое, што яна надала поўнае раўнапраўе ўсім нацыям, якія уваходзілі ў быўшую Расейскую імпэрыю; што яна разбурыла тыя сьцены, якімі царская улада на працягу вякоў адгароджвала адну нацыю ад другой. Цяпер няма галоўнай, дзяржаўнай нацыі, як і няма галоўнай, дзяржаўнай мовы. Цяпер працоўныя кожнай нацыі маюць поўную магчымасьць самастойна будаваць сваё жыцьцё, разьвіваючы сваю нацыянальную культуру.

Нацыянальнае прыгнечаньне на Беларусі ў часы царызма было надта цяжкім. Беларуская культура і мова лічыліся „мужыцкімі“, і царская улада праз сваіх чыноўнікаў і школы імкнулася да таго, каб „мужык“ забыў сваю мову.

Вынікам такой палітыкі зьявілась тое, што беларуская мова паступова стала заміраць, але яна ня зьнішчылася, яна захавалася у сям'і селяніна.

Другім балючым пытаньнем на Беларусі было яўрэйскае пытаньне.

Царская палітыка ў адносінах да яўрэяў была палітыкай зьдзекаў і гвалтаў. Так званую яўрэйскую мяжу аседласьці зьнішчыла толькі Кастрычнікавая рэвалюцыя.

З далучэньнем Магілеўшчыны да Беларускай рэспублікі нацыянальнае пытаньне палучыла сваё яскравае вырашэньне.

У гэтым напрамку к 10-гадавіне Кастрычніка маюцца значныя дасягненьні.

А акрузе ўтворана 5 нацсаветаў (2 яўрэйскіх, 1 польскі і 2 латыскіх).

Апарат сельскіх, местачковых і гарадзкіх саветаў, а таксама райвыканкамаў і акрыканкому пераведзены на беларускую мову.

Савецкі суд у акрузе прыстасаван для абслугоўваньня ўсіх нацыянальнасьцяў на роднай мове, для чаго ў акрсудзе маюцца працаўнікі, якія ведаюць ня толькі беларускую мову, але яўрэйскую і польскую. У г. Магілеве з'арганізаваны 2 нацыянальных вучасткі нарсуду—яўрэйскі і польскі.

Асаблівы адбітак нацыянальнае пытаньне знайшло ў школьным жыцьці. У школах выкладаньне вядзецца на беларускай мове.

Для нацыянальных меншасьцяў адчынены свае школы і палітасьветныя установы (чытай аб гэтым у артыкуле „Народная асьвета").

Цяпер працоўныя Магілеўшчыны маюць сваю газэту на роднай беларускай мове „Магілеўскі Селянін".

Вырашэньне нацпытаньня пайшло яшчэ далей. Савецкая ўлада прыняла меры, баб далучыць працоўных яўрэяў да землярбскай працы. Яўрэйства, жадаючага працаваць на зямлі, знаходзіцца даволі, Ужо 1472 яўрэйскіх сям'і працуюць на зямлі, ім перададзена 6640 дзес.

Тое нацыянальнае прыгнечаньне і розьніца, якія панавалі ў часы царызму і якія пераджкаджалі аб'яднаньню працоўных у вадну дружную пралетарскую сям'ю, цяпер зьнішчаны. Цяпер усе нацыі дружна і пасьпяхова працуюць па сацыялістычному будаўніцтву краю.

## Ва ўсіх галінах будаўніцтва выперадзілі даваенны час.

Аб тых значных дасягненьнях, якія маюцца к 10-годзьдзю Кастрычніка, гаворыць само жыцьцё.

Сельская гаспадарка акругі ня толькі дайшла да ўзроўню дарэвалюцыйнага часу, але і перасягнула яго Паляпшаецца апрацоўка глебы, пявялічылася ў сялянства колькасьць сельска-гаспадарчых прылад, разьвіваецца шматпольле і травасеяньне, з кожным годам павялічваецца колькасьць жывёлы, якая паляпшаецца і якасна.

Палепшаньню сельскае гаспадаркі спрыяе значна разгорнутая праца па земляўпарадкаваньню. Прыкметна з кожным годам усё больш і больш разьвіваецца меліарацыя, і ў гэтай працы дасягнуты ўжо добрыя вынікі.

У прамысловасьці бачым аднаўленьне разбураных прадпрыёмстваў. Будаюцца новыя прадпрыёмствы, як сілікатны завод і электрастанцыі ў раёнах. Прадпрыёмствы павялічылі свой выраб. Рабочыя падвысілі выт-

ворчасьць працы. Шмат чаго зроблена дзеля разьвіцьця саматужнай прамысловасьці, якая аб'яднаецца у саматужна-прамысловы саюз.

Адначасова з палепшаньнем сельскае гаспадаркі і прамысловасьці, паляпшаецца з кожным годам і быт селяніна і рабочага.

Значна палепшыліся ў акрузе школьная справа і ахова здароўя. Штогодна ў плянавым парадку будаецца па некалькі школ у кожным раёне. Адрамантаваны больніцы, будуюцца новыя.

Маюцца значныя дасягненьні і ў разьвіцьці каапэрацыі, палепшылася абслугоўваньне ёю насельніцтва, зьніжаны ў гэтым годзе цэны на тавары.

## Сваёю ўласнаю рукой.

Яны, гэтыя дасягненьні—ёсьць дасягненьні ўсіх рабочых і сялян Магілеўшчыны, бо без актыўнага ўдзелу іх у справе савецкага будаўніцтва акругі не магчымы былі-б гэткія дасягненьні.

Савецкі лад тым і адрозьніваецца ад буржуазнага, што праз Саветы рабочы і селянін непасрэдна кіруюць дзяржавай, а значыцца яны самі зацікаўлены ва ўсёй працы саветаў.

Усе гады, асабліва з пераходам на мірную працу, ішло паступовае паглыбленьне ды разьвіцьцё савецкага будаўніцтва, шляхам уцягненьня ў беспасрэдную працу кіраваньня ўсімі галінамі жыцьця шырокіх колаў рабочых і сялян Магілеўшчыны.

Выбары ў Саветы 1926—27 г. красамоўна сьцьвярджаюць вышэйсказанае.

Сялянства на гэтых выбарах паказала вялікую зацікаўленасьць справаздачамі Саветаў, актыўна абгаварвала іх працу і імкнулася выбіраць у Саветы лепшых і працаздольных працоўнікаў.

З кожным годам павялічваецца непасрэдны ўдзел сялянства ў выбарах: у 1926—27 г.—удзелнічала 47 процантаў, супроць 44 процантаў у 1925—26 г. і супроць 42% у 1924—25 годзе.

У Саветы 1926—27 г. выбрана 2.624 бяднякоў і серадн якоў-сялян, гэта значыць каля 70 процентаў агульнага ліку членаў Саветаў, прычым, беднякоў у адносінах да першай лічбы—51 процант.

З кожным годам узмацняецца сувязь сялянства з камуністычнай партыяй, аб чым гавораць параўнаўчыя лічбы партыйнага складу Саветаў, як-та: 1924—25 г. 5% партыйцаў, 1925—26 г. 7, у 1926—27 г. 10 процантаў ад агульнага ліку членаў саветаў.

У райвыканкомы абрана у 1927 годзе па ўсёй акрузе 244 члены: 125 сялян (51%), 36 рабочых (15%), 10 саматужнікаў (4%), 14 інтэлігентаў (6%), 54 служачых (22%) і 4 вайскоўцаў (2%). З іх жанчын—27 (11 процантаў). У складзе райвыканкамаў прадстаўлены ўсе галоўныя нацыянальнасьці акругі, як-та: беларусы (79%), расейцы (5%), яўрэі (9%), палякі (2%) і іншыя нацыянальнасьці (5%).

У акрвыканкоме па сацыяльнаму складу 17 рабочых, 12 сялян, 12 служачых і 4 вайскоўцы.

## Савецкі апарат набліжаны да насельніцтва.

З кожным годам, па меры гаспадарчага і культурнага ўзросту, пашыраліся задачы дзейнасьці саветаў Магілеўшчыны.

Шэрагам законадаўчых актаў ураду Беларусі пашыраны правы сельсаветаў і райвыканкамаў. Першым перададзены некаторыя функцыі, якія ра-

ней ўваходзілі ў правы валасных выканкамаў, як напрыклад: вядзеньне актаў грамадзянскага стану, пасьведчаньне подпісаў і некаторых дакумантаў, прыём сельска-гаспадарчага падатку і страхоўкі, права вырашэньня на месцы дробных зямельных пытаньняў і інш., а райвыканкамам перададзена шмат правоў быўшых павятовых выканкамаў.

Гэта значна наблізіла Савецкі апарат да сялянства. Селяніну ўжо толькі ў выключных выпадках прыходзіцца езьдзіць у акругу—Магілеў.

Спэцыяльныя мерапрыёмствы, як-та: курсы старшынь і сакратароў сельсаветаў, праведзеныя на працягу 1925—1927 г. ува ўсіх раёнах, у большасьці з іх па некалькі разоў, укамплектаваньне сельскіх, местачковых Саветаў і раённых устаноў лепшымі працаўнікамі—значна павысілі працаздольнасьць нізавога савецкага апарату і лепш прыстасавалі яго да абслугоўваньня працоўных Магілеўшчыны.

У сваёй працы Саветы апіраюцца на шырокія колы актыўных сялян і рабочых, якія з году ў год усё больш ўцягваюцца ў работу праз камісіі пры сельскіх і местачковых Саветах. Гэта сьцьвярджае лічба ў 6276 чалавек, уцягнутых у гэтыя камісіі.

Хай гэтыя камісіі яшчэ слаба працуюць—не бяда, бо, зразумела, кіраваньне дзяржавай нялёгкая праца, і працоўныя, якія шмат вякоў былі пад прыгнечаньнем эксплеататараў, толькі вучацца кіраваць.

Побач з паляпшаньнем Савецкага апарату, з кожным годам усё больш і больш узмацнялася рэвалюцыйная законнасьць. У мэтах наблізжэньня суду і пракурорскага нагляду да насельніцтва, у кожным раёне маецца вучастак нарсуду. Раёны акругі абслугоўваюцца 4 пракурорскімі вучасткамі.

Цяпер бяднейшыя працоўныя палучаюць дарэмную юрыдычную дапамогу праз калегію абаронцаў, аб чым яны не маглі і думаць у царскія часы. Да 6400 зваротаў у 1926 г. і 3779 за першую палову 1927 г. у юрыдычныя кансультаці кажуць аб тым, што гэтая справа адпавядае інтарэсам працоўных.

## Гарадзкія саветы.

Асобна трэба застанавіцца на гарадзкіх саветах, якія зьяўляюцца кіруючымі ворганамі гарадзкога пралетарыяту.

Сучасную арганізацыйную структуру гарадзкія саветы палучылі з красавіка 1926 г., калі „Палажэньне“ аб іх яскрава адзначыла іх правы і абавязкі. Да гэтага-ж часу гарсаветы не маглі разгарнуць сваёй работы, бо па структуры сваёй яны былі цесна зьвязаны з выканкамамі, так што усёй працай у горадзе кіравалі апошнія.

У неакруговых гарадох Шклове, Быхаве, Чавусах і Чэрыкаве гарсаветы з'арганізаваны толькі з 1925 году.

З таго часу, як гарсаветы, згодна Палажэньня, сталі сапраўды кіруючымі ворганамі гарадзкога жыцьця, яны здолелі разгарнуць значную працу. У гэтай працы Магілеўскі гарсавет, як галоўны савет у акрузе, ідзе наперадзе. Раьвіцьцё камунальнага будаўніцтва, палепшаньне дабрабыту гарадоў, прамысловае і культурнае будаўніцтва, палепшаньне быту рабочых кажа аб тым, што праца гарадзкіх саветаў ідзе пасьпяхова.

Выбары ў Саветы за апошнія гады паказваюць, што з кожным годам павышаецца актыўнасьць гарадзкога пралетарыяту. Так, удзел у выбарах па ўсіх 6 гарсаветах акругі дайшоў у 1926—27 годзе да 48 процантаў, супроць 41% у папярэднім годзе.

У гарадзкія саветы абрана ў 1927 годзе 520 членаў, у якім ліку рабочых—193 (37%), у ліку іх рабочых ад станка—159, служачых—121 (23%), вучняў—3, хатніх гаспадынь—27 (5%,) саматужнікаў—28(5 1/2%), сялян—95 (18%), чырвонаармейцаў—53 (10%).

Жанчыны складаюць 15 процантаў.

Па партыйнаму складу: членаў і кандытаў партыі 221 (42 1/2%), членаў і кандыдатаў камсамола 38 (7%).

## Расьце грамадзкасьць.

Узбуджаная Кастрычнікам вялікая творчая воля рабочых і сялян знайшла свой адбітак ня толькі непасрэдна ў працы Саветаў, але і ў формах савецкай грамадзькасьці.

Да часу утварэньня Магілеўскай акругі (1924 год) існавала ў акрузе чатыры грамадзкіх арганізацыі „ОДВФ", „Доброхім", „МОПР" і Фізвыхаваньне, якія налічвалі 14.524 сяброў, цяпер-жа, акрамя іх існуюць „Чырвоны крыж" краязнаўчае т-ва і іншыя, якія налічваюць ужо звыш 49.742 членаў.

Вялікія посьпехі маюцца ў справе сялянскай грамадзкай узаёмадапамогі. Гэтая арганізацыя, якая ставіць сабе мэтай як матар'яльную дапамогу сваім членам, так і будаваньне элемэнтаў новага жыцьця, знайшла шырокі водгук сярод сялянства.

Гэта красамоўна сьцвярджаюць наступныя лічбы: членаў тав—ваў сялянскай узаёмадапамогі лічыцца да 300.000. Фонд камітэтаў складаўся на 1 красавіка 1927 г.—збожжам 76.396 пудоў і грашмі 40.074 руб.

Ідзе вялікае будаўніцтва сацыялізму. Кожны дзень прыносіць усё новыя посьпехі ў гэтым будаўніцтве. Гэтыя посьпехі зьяўляюцца вынікам упартай працы саміх рабочых і сялян Магілеўшчыны пад сталым кіраўніцтвам камуністычнай партыі.

---

# ЛЮСТРА НАШАГА РОСТУ.

## Мясцовы бюджэт акругі да 10-га Кастрычніка.

Лепшым довадам нашага ўзросту зьяўляецца павялічэньне нашага мясцовага бюджэту.

Тая акалічнасьць, што тэрыторыя нашай акругі некалькі раз зьмянялася пры раёніраваньнях, а таксама—што існаваўшыя савецкія знакі хутка абясцэніваліся, не дае нам магчымасьці цыфрамі даказаць працоўным павялічэньне нашага мясцовага бюджэту з году ў год. Але-ж і данныя за 4 гады, пачынаючы з 1924—25 году, досыць характэрныя.

### Як рос наш бюджэт?

Агульны акруговы бюджэт, разам з далучанымі да нас раёнамі Калініншчыны, раўняўся у 1924—25 годзе — 2 587.398 рублям, у 1925—26-ым—ён узрос да 4.471.752 рублёў, а 1926 27-ым — ужо да 5.479.606 рублёў.

Дакладная сума бюджэту на 1927—28 год яшчэ не вядома, але яна бязумоўна будзе складаць ня менш пяці з паловай мільёнаў рублёў.

Значна узрастаў за апошінія гады наш раённы бюджэт, як у агульнай суме, так і ў сваёй удзельнай вазе.

Так, напрыклад, у 1924—25 годзе раённы бюджэт раўняўся 1 мільёну 130 тысячам рублёў і складаў у агульным бюджэце 44 проценты, у 1925—26 годзе ён узрос да 2 мільенаў 97 тысяч, альбо 46,9 процанта, а ў 1926—27 годзе — да 3 мільенаў 49 тысяч альбо 55.7 процанта.

Хуткі тэмп узросту раённых бюджэтаў гаворыць аб узмацненьні раёнаў, як адміністрацыйных адзінак, і аб лепшым абслугаваньні сялянства.

### Народная асьвета-у асяродку ўвагі.

Царскі урад будаваў свой добрабыт на народнай цямноце. Савецкі урад паставіў сваёй галоўнай задачай народную асьвету.

З году у год узрастаюць выдаткі на народную адукацыю.

У 1924-25 годзе на асьвету па мясцоваму бюджэту (акрамя сум, адпушчаных па дзяржаўнаму бюджэту) адпушчалася 1 мільён 446 тысяч, у 1925—26-ым—два мільёны 290 тысяч, а ў 1926-27 г. 2 мільёны 976 тысяч.

Лік камплектаў школ 1-й ступені ў граніцах Магілеўшчыны без Калініншчыны вырас за тэй жа час з 667-мі ў 1924-25 годзе да 827-мі сёлета—на новы навучальны год. Палепшылася і самае становішча школы. На адзін камплект выдаткоўвался у 1924 25 годзе 603 рублі, а ў бягучым годзе выдаткоўваецца ўжо 780 рублёў.

Параўнальна хутка пасоўвалась новае школьнае будаўніцтва.

## Ахова здароўя палепшылася.

Лекавая справа ў акрузе таксама атрымоўвала па бюджэту з кожным годам ўсё больш магчымасьцяў паляпшацца колькасна і якасна.

Акруговая больніца грунтоўна адбудована. Колькасьць ложак у ёй павялічана да 175. Арганізован рэнтгэнаўскі габінэт.

Палепшана таксама становішча нашых раённых лячэбніц, урачэбных і фэльчарскіх пунктаў.

Колькасьць ложак па раёнах без Калініншчыны узрасла з 141 у 1924-25 годзе да 200 у 1926-27 г.

У цяперашні час у вакрузе 18 урачэбных пунктаў.

## Усё шырэй разгортваецца будаўніцтва.

У галіне камунальнага будаўніцтва мы таксама можам адзначыць вялікія дасягненьні.

Акруговы цэнтр—Магілеў—да 10 гадавіны значна адрамантован, шмат зруйнаванных дамоў адбудавана і аддана пад кватэры рабочым і служачым.

Павольна, але-ж прыкметна, паляпшаецца становішча іншых гарадоў. Чавусы заканчваюць пабудову электрастанцыі, а Быхаў будзе мець новую электрастанцыю да 11-й гадавіны.

Шэраг дасягненьняў ёсьць і ў другіх гарадох і мястэчках нашай акругі.

## На дапамогу сельскай гаспадарцы.

Сельская гаспадарка з году ў год узрастае, чаму значна дапамагае ўзрост мясцовага бюджэту.

Да 10 гадавіны патрэбна і можна адзначыць значны узрост колькасьці аграпунктаў і спэцыялістаў па сельскай гаспадарцы.

У параўнаньні з 1924-25 годам колькасьць апошніх павялічылася на 18 і дасягае 82 чалавек.

З году ў год павялічваецца водпуск сродкаў на закупку сельскагаспадарчых машын. На 1927—28 г. для гэтай мэты адпушчана 23.000 рублёў.

## Выдаткаў на апарат—усё менш.

Разам з узростам выдаткаў на культурна-сацыяльныя і гаспадарчыя патрэбы, зьмяншаюцца выдаткі на ўтрыманьне адміністрацыйнага апарату (выканаўчыя камітэты, суды і міліцыю).

Скарачэньне акруговага апарату ў Магілеве і Клімавічах дало эканомію у 184 тысячы рублёў.

## Прамысловы фонд

З 1926—27 году ў мясцовым бюджэце вылучан спэцыяльны прамысловы фонд для падтрыманьня мясцовай прамысловасьці.

У мінулым годзе фонд гэты скпадаў 94 тысячы рублёў. На будучы год ён будзе павялічан да 150 тысяч руб.

Значна палепшана за гэты час становішча рабочых і служачых, а таксама розных спэцыялістаў: настаўнікаў, урачэй, аграномаў, тэхнікаў і гэтак далей.

## За эканомію! За якасьць!

Задача, якая стаіць перад намі зараз і будзе яшчэ стаяць на працягу бліжэйшых гадоў, гэта—дабіцца бездэфіцытнага бюджэту.

Больш эканомна і мэтазгодна выдаткоўваць бюджэтныя сродкі, палепшыць якасьць будаўнічых работ (рамонт будынкаў, шляхоў, мастоў і г. д.)— вось таксама задачы, якія яшчэ стаяць перад намі.

Пры належным удзеле ў складаньні і расходваньні бюджэту ўсіх працоўных мы гэтыя задачы выканаем.

---




*Шырокія слупікі паказваюць, як рос па гадох акругов. бюджэт. Вузенькія слупікі адзначаюць (у заштрыхованай частцы), які процант у агульным бюджэце складаў раённы бюджэт.*

# Сельская і лясная гаспадарка ў акрузе.

## Савецкае землянадзяленьне і землябудаўніцтва.

### Колькі зямлі даў Кастрычнік Магілеўскаму селяніну.

Кастрычнікавая рэвалюцыя передала ў рукі сялян усю панскую зямлю. Передала яе бяз грошай.

520 тысяч гэктараў (гэктар трохі менш за дзесяціны) зямлі перайшло саветам ад паноў і казны. Гэта складае 28 процантаў ад усяе плошчы акругі.

З гэтай зямлі 65 процантаў былі залічаны у лясны фонд—337 тысяч гэктараў (пазьней сялянству перададзена з дзяржаўнага ляснога фонду—ў лясы мясцовага значэньня 125 тысяч гэктараў, што складае больш чацьвёртай часткі ўсіх лясоў па вакрузе).

Гэшта—183 тысячы гэктараў—перададзена у карыстаньне сялянства амаль цалком; толькі пад савецкімі гаспадаркамі засталося каля 6½ тысяч гэктараў.

Трэба яшчэ ўспамянуць, што рэвалюцыя пазбавіла сялянства ад плацяжоў у банк за куплёную зямлю.

Наогул, рэвалюцыя павялічыла землякарыстаньне кожнага сялянскага двара ў сярэднім на 1¼ гэктары на двор: калі да рэвалюцыі адзін двор меў 7¾ гэктары, дык пасьля рэвалюцыі—9 гэктараў. Калі пры гэтым улічыць, што пры разьмеркаваньні зямлі больш яе прыходзіцца на долю беззямельных і малазямельных сялян, дык зразумела, што павялічэньне землякарыстаньня для бяднейшага сялянства складае больш чымся 1¼ гэктары на двор.

Але-ж атрыманай зямлі не хапае на тое, каб надзяліць усю беднату.

І Савецкая улада прыступае да перагляду свайго ляснога фонду. З гэтага фонду было прызнана магчымым узяць 36 тысяч гэктараў зямлі.

Акрамя таго, абкройка шматзямельных гаспадарак дала таксама 36 тысяч гэктараў.

З гэтае плошчы (72 тысячы гэктараў) было надзелена 2556 беззямельных гаспадарак і 13755 малазямельных, разам 16311 двароў.

У даны момант яшчэ застаецца каля 25 тысяч двароў малазямельных і беззямельных, якія патрабуюць надзяленьня.

Частка з іх атрымае зямлю пры зэмлеўпарадкаваньні, частка—пры абкройцы шматзямельных, якая (абкройка) будзе закончана ў будучым годзе.

Дзеля памяншэньня зямельнае цеснаты Савецкая улада разгортвае перасяленьне (за час з 1925 году перасялена 2918 сямей з 17.794 едакамі). Разам з тым улада разьвівае мэліарацыйныя работы, каб адваяваць зямлю ад балот і наогул няўдоб'е абярнуць у карысную зямлю. Таксама улада дапамагае паляпшэньню сельскае гаспадаркі, каб з тое-ж самае плошчы кармілася больш народу.

Асабліва важнае значэньне набывае земляўпарадкаваньне.

## Савецкае земляўпарадкаваньне.

Земляўпарадкаваньне стварае найбольш спрыяючыя умовы для землякарыстальнікам-земляроба. Грунтоўная перабудова сельскае гаспадаркі немагчыма без зляўпарадкавананьня, і толькі пасьля земляўпарадкаваньня селянін зможа стаць на верны шлях разьвіцьця сваёй гаспадаркі.

Гэта разумее савецкая улада, якая праводзіць земляўпарадкаваньне так хутка, як толькі гэта магчыма. Наогул, пасьля рэвалюцыі (з 1922 года) земляўпарадкаваньне ідзе у чатыры разы хутчэй, чымся за старою уладаю. Да гэтага часу пры Савецкай уладзе земляўпарадкована 460374 гэктараў. Разам з земляўпарадкаваньнем, праведзенным пры старым ражыме, земляўпарадкованая плошча па акрузе складае звыш 40 процантаў ад усёй зямельнае плошчы. У працягу бліжэйшых 7 гадоў будзе земляўпарадкована ўся плошча вакругі.

Даючы магчымасьць перабудаваць грунтоўна сельскую гаспадарку, земляўпарадкаваньне, акрамя таго, памяншае перанаселенасьць нашае вёскі.

Тутака трэба сказаць аб надзеленьні зямлёй яўрэяў, якім рэвалюцыя дала магчымасьць карыстаецца зямлёю нараўне з працоўнымі іншых нацыяў, загладзіўшы тую несправядлівасьць, ад якой яўрэі пакутвалі за царом. Па нашай акрузе 1010 яўрэйскіх сем'яў атрымала 5401 дзесяцін зямлі, на якой арганізована 28 калгасаў і 4 пасёлкі. Акрамя таго, яўрэі атрымоўвалі зямлю пры агульным земляўпарадкаваньні (і 150 сем'яў пераселена за межы Беларусі) Усяго зараз па акрузе каля 12 процантаў яўрэяў займаюцца хлебаробствам.

## Зямлю—ад балот

Савецкая ўлада пачала і адваёўваць ад балот зямлю для сялянства.

На дзяржаўныя сродкі праведзены вялізныя работы па рэгуляваньню рэк Ухлясьці і Іпуці, на што выдаткована 155 тысяч рублёў. У сёлетнім годзе пачата рэгуліроўка ракі Грозы.

Само насельніцтва на свае сродкі прарыла каля 200 кілёмэтраў канаў. На плошчы каля 300 гэктараў праароблена грунтоўнае паляпшэньнё лугоў. Наогул, каштоўнасьць працы, якая укладзена сялянствам у мэліарацыйную справу, вылічана ў 268 тысяч рублёў.

У мэтах прапаганды культуры балот сярод насельніцтва, у 1925 г. на дзяржаўныя сродкі арганізованы 2 апорна-паказальных пункты, з якіх адзін у 5 вярстах ад г. Магілева, а другі—у 3 вярстах ад г. Клімавіч.

У мэтах падрыхтоўкі насеннага матар'ялу дзеля залужэньня, у 1926 г. арганізован насенны размножнік лугавых траў у савгасе Вейна, у якім к гэтаму году высеяна каля 38 гэктараў.

Мэліарацыйныя таварыствы маюць ужо дзеля працы на балотах тры трактары, з якіх 2 атрыманы на дзяржаўныя сродкі і 1 на сродкі мэліарацыйных таварystваў. Таксама на дзяржаўныя сродкі закуплен цэлы шэраг балотна-лугавога інвэнтару дзеля павярхоўнага і каранного паляпшэньня.

За два апошнія гады выдадзена мэліарацыйным таварыствам каля 99 тысяч рублёў доўгатэрміновага крэдыту.



# Сельская гаспадарка за 10 гадоў

Сельская гаспадарка ў Магілеўшчыне зьяўляецца галоўнай галінай народнай гаспадаркі.

Да рэвалюцыі яна знаходзілася ў дрэнным становішчы. Вясковае насельніцтва цярпела ад малаземельля. У вёсцы панавала трохполка, празпалосьсе і дальназямельле. Скот не даваў амаль што ніякага прыбытку.

Царская улада праводзіла мерапрыёмствы па паднацьцю сельскае гаспадаркі, галоўным чынам, між памешчычых гаспадарак і сталыпінскіх хутароў, тады як гэтыя мерапрыёмствы зусім не ахаплівалі шырокіх колаў сялянскіх гаспадарак.

## У час грамадзянскай вайны.

Кастрычнікавая рэвалюцыя спыніла імпэрыялістычную вайну.

Але, не пасьпеў яшчэ селянін аднавіць мірную працу на атрыманай ад рэвалюцыі зямлі, як прышлося з аружжам ў руках абараняць гэтую зямлю. Чатыры гады нам прышлося адстойваць заваёвы Кастрычніка ад сваёй і заграмічнай буржуазіі.

Зразумела, што ў часы грамадзянскай вайны сельская гаспадарка усё больш руйнавалася.

У 1920 годзе, у разгар грамадзянскай вайны, пасеўная плошча скарацілася аж удвая ў параўнаньні з даваенным часам.

Ураджаі зьнізіліся па асобных культурах ад 10 да 40 процантаў, 1920-21 гады—гады найвялікшага заняпаду сельскае гаспадаркі.

## Паласа мірнай працы—перасягнулі даваенны ўзровень.

З 1921 году мы жывём у паласе мірнай працы.

Пр йшло з таго часу два гады і к 1924 году селянін ужо удвая павялічыў плошчу пасева, якая дайшла да ўзроўню 1916 году.

Яшчэ тры гады—і пасеўная плошча павялічваецца к сёлетняму 1927 году на 15 процантаў (14,8 %) супроць 1924 года (а таксама і 1916 г.)

Ураджайнасць па трох галоўных хлябох відаць з наступных лічб.

| Гады | Ураджай з дзесяціны | | |
|---|---|---|---|
| | Жыта | Авёс | Бульба |
| 1911-15 . . . | 43,4 | 50,2 | 441 |
| 1920-22 . . . | 39,6 | 32,1 | 322 |
| 1923-26 . . . | 40,7 | 51,6 | 573 |
| 1927 . . . . | 45,0 | 42,0 | 548 |

Такім чынам, па ураджайнасьці мы перасягнулі увогуле даваенны ўзровень (сёлетні год па яравым—няўраджайны). Асабліва значны рост ураджайнасьці бульбы.

## За грунтоўную перабудову гаспадаркі.

Толькі аднавіўшы мірную працу Савецкая улада здолела падыйсьці да земляўпарадкаваньня і разам з тым да грунтоўнай перабудовы усёй сялянскай гаспадаркі.

Што трэба разумець пад грунтоўнай перабудовай сельскай гаспадаркі? Улада рабочых і сялян кажа:

- У нас, пры Савецкай уладзе, дзесяціна павінна даваць не 40-50 пудоў збожжа, а 100-150 пудоў. Лугі (і быўшыя балоты)—200-300 пудоў сена. Каровы павінны даваць ня 70—80, а 200-300 вядзёр малака.

Наогул, даход ад сельскай гаспадаркі павінен вылічацца ня сотнямі, а тысячамі рублёў у год.

Якім чынам правесьці перабудову гаспадаркі?

—Трэба скараціць плошчу пад збожжам, бо ад яго мала карысьці. Хлеб мы увозілі, увозім і будзем увозіць яшчэ больш.

—Больш засяваць даходных тэхнічных культур (лёну, канапель).

— Каб скот даваў ня страту, а даход, сеяць травы ў полі, больш бульбы, караньплодаў.

—Пераходзіць на сталае шматпольле.

—На шмат шпарчэй пойдзем наперад, калі будзем аб'яднацца у каапэратывах, малочных арцелях, крэдытных таварыствах, машынных таварыствах і г. д.

І Савецкая улада ня толькі агітуе, ня толькі малюе прывабныя малюнкі. Яна на справе ставіць сельскую гаспадарку на шлях перабудовы.

Яна шпарка праводзіць земляўпарадкаваньне, у шмат разоў павялічыла агранамічную дапамогу, дапамагае сялянству крэдытам, падтрымлівае ўсі існуючыя каапэрацыйныя арганізацыі, асушвае балоты, пашырае і разьвівае працу злучных і пракатных пунктаў, паказальных вучасткаў, вэтэрынарную дапамогу і г. д.

Як жа адгукнулася сялянства на мерапрыёмствы улады?

У падвышэньні ураджайнасьці вялікае значэньне мае палепшаная апрацоўка глебы, сваечасовы пасеў, сарціроўка насеньня, засеў гатунковым насеньнем, зялёнае і штучнае ўгнаеньне,

Усім вядома, што робіць у гэтым напрамку улада.

Тут даволі напомніць, што ў 1924 годзе адсартавана 183 тысячы пудоў насеньня, а у 1927 годзе ужо 465 тысяч пудоў, што складае 15 процантаў ад усяго высеянага насеньня. У 1924 годзе гатунковага насеньня распаўсюджана 1950 пудоў, а у 1927 годзе—25 тысяч пудоў; мінэральнага угнаеньня („парашкоў") адпаведна 4 тысячы і 60 тысяч пудоў, лубіну у 1924 годзе 850 пудоў, у 1926—9500 пудоў і ў 1927 годзе--2500 пудоў (адсутнасьць насенёня лубіну, няўраджайны на яго год). Плошча пад позьнім папарам скарацілася за тры гады на $16^1/_2$ процантаў (з 68 да $51^1/_2\%$).

Засеў разных культур у процантах па гадох складаў:

| Высяваліся | 1916 г. | 1920 г. | 1925 г. | 1927 г. |
|---|---|---|---|---|
| Збожжавыя . . | 86,8 | 86,6 | 81,0 | 77,2 |
| Тэхнічныя . . | 5,8 % | 3,9 | 4,8 | 6,0 |
| Бульба . . . . | 8,3% | 8,9 | 11,1 | 12,8 |
| Травы . . . . | 0,1 % | 1,1 | 3,1 | 3,9 |

Такім чынам, пасьля найбольшага культурнага заняпаду ў 1916—1920 гадох, мы значна паменшылі плошчу пад збожжам, падвысілі плошчу пад тэхнічнымі культурамі, у $1^1/_2$ разы паднялі плошчу засева бульбы і ў 39 разоў павялічылі плошчу пад сеянымі травамі ў параўнаньні з даваенным часам.

У царскія часы пад шматпольлем было ня больш аднаго процанту. Толькі пры Савецкай уладзе разгортваецца шырока, разам з земляўпарадкаваньнем, пераход на шматпольныя севазвароты. У сёлетнім годзе мы маем каля 14 процантаў ўсёй пашні пад шматпалёўкай. Каля 96 тысяч дзесяцін зямлі. Акруга мае 17 тысяч гаспадароў-шматпольнікаў.

Распаўсюджана у крэдыт насеньня канюшыны: у 1924 годзе—1669 пуд. і ў сёлетнім годзе—4212 пудоў.

З ростам ураджайнасьці, з павышэньнем тэхнічных культур, з увядзеньнем шматпольля расьце даход ад гаспадаркі, яна можа больш прадаваць. Павялічваецца, як кажуць, таварнасьць сельскай гаспадаркі

Па дадзеным бюджэтных абсьледваньняў, таварнасьць гэта расла такім чынам:

| | | |
|---|---|---|
| 1923-24 г. | 1924-25 г. | 1925-26 г. |
| 52 р. 17 к. | 72 р. 67 к. | 86 р. 16 к. |
| (100%) | (139%) | (165%) |

Калі паглядзець. за кошт чаго расла таварнасьць, дык будзем мець такія лічбы.

У першым (1923-24) годзе гаспадаркі больш прадавалі прадуктаў паляводзтва—на $50^1/_2$ процантаў, а жывёлаводзтва—толькі на 40 процантаў.

Праз два гады (1925—1926 год) было ужо наадварот: на жывёлаводзтва прыходзілася $6^1/_2$ процантаў, а на паляводзтва толькі 26 процантаў.

Такім чынам, гаспадаркі расьлі ў пажаданым, жывёлаводным напрамку.

Мы перасягнулі па сельскай гаспадарцы даваенны ўзровень. Мы ўступілі ужо на шлях грунтоўнай перабудовы усёй сельскай гаспадаркі, але ў гэтым напрамку зрабілі толькі першыя крокі.

З году у год расла дапамога вёсцы з боку дзяржавы. У далейшым Савецкая дзяржава, з ростам сваіх сродкаў, здолее яшчэ больш значна павялічваць сродкі на перабудову сельскай гаспадаркі.

Рост жа сьвядомасьці і актыўнасьці сялянства—відавочны.

Пры такіх умовах праўдзівая, рэвалюцыйная, Кастрычнікавая перабудова сельскае гаспадаркі будзе выканана шпаркімі крокамі.

Вёска хутка заставіць адзаду сваю беднасьць...

---

# Жывёлаводзтва.

У дарэвалюцыйны час жывёла яскрава падзялялася на дзьве групы: жывёла паноў и звычайная сялянская жывёла.

Панскяя стады фармаваліся, галоўным чынам, з чыстапароднай высокапрадукцыйнай жывёлы, якая знаходзіліся ўнутры краіны ці непасрэдна вывозіліся з заграніцы.

Сялянскі скот выводзіўся з першабытных жывёлін у агульным табуне—„самасейкай“, бо за сваечасовай злучкай з лепшымі вытворнікамі ніхто не наглядаў. У сялянскае стада звычайна маглі папасьцI толькі выпадковыя ці выбракованыя вытворнікі з панскіх табуноў.

## Заняпад у час вайны і колькаснае аднаўленьне жывёлаводзтва.

Вайна больна ўдарыла па сялянскай жывёлагадоўлі. З 1914 да 1922 г. мы мелі скарачэньне ската да 50 працантаў і нават больш. Асабліва скараціўся лік кароў, сьвіней і авец.

За 1914 год лічб мы ня маем. Ніжэйзьмешчаная таблічка паказвае, як памяншаўся ў працантах лік жывёлы ў параўнаньні з 1916 годам, які палічан за 100 працантаў, і як ён узрастаў з таго часу, як мы аднавілі мірную працу.

| | 1916 г. | 1922 г. | 1925 г. | 1926 г. |
|---|---|---|---|---|
| Коняй . . . . . . . . . | 100 | 93 | 100 | 119 |
| Буйнай рагатай жывёлы . | 100 | 74 | 124 | 145 |
| Авец і баранаў дарослых | 100 | 42 | 125 | 131 |
| Сьвіней . . . . . . . . | 100 | 71 | 95 | 122 |

З таблічкі відна, што ў 1924 г. мы ў сярэднім зраўняліся з 1916 г., а ў 1926 г. мы ўжо маем прырост супроць 1916 г. ад 19 да 45 галоў на кожную сотню жывёлы.

Пры гэтым рост жывёлы ішоў, так сказаць, у савецкім напрамку: колькасьць бясконных гаспадарак скарацілася к 1927 г. у параўнаньні з 1917 г. з 18½ да 7 працантаў, бескароўных з 11 працантаў да 4 працантаў. Таксама павялічыўся лік двароў, якія маюць па 2 і 3 кані і па 2—3 каровы. З другога боку, рэвалюцыя падсекла тую групу гаспадарак, якая мела па 4 і больш коняй і па 4 і больш кароў.

Колькасьць дойных кароў на адну гаспадарку па гадох зьмянялася так:

1924 г. — 1,3    1926 г. — 1,7
1925 г. — 1,6    1927 г. — 1,6

Як бачым , колькасьць кароў на 1 гаспадарку устойліва расьце. Памяшэньне ў 1927 годзе тлумачыцца недародом папярэдняга году.

## Савецкія шляхі паляпшэньня жывёлагадоўлі.

Савецкая агранамія прызнала , што галоўны шлях паляпшэньня жывёлы, гэта—паляпшэньне існуючай пароды ў самой сябе. Праз лепшае харчаваньне і ўтрыманьне (дацкія нормы і цёплая пуня). Праз адбор для гадоўлі найлепшых па прадукцыйнасьці жывёлін.

Мажлівы і ўвсз у вакругу такіх парод жывёлы, якія ўжо існуюць у вакрузе, маюць спрос сярод насельніцтва і відавочна неабходны для падняцьця прадукцыйнасьці жывёлы, асьвяжэньня крыві і гэтак далей.

Буйнае рагатае жывёлаводзтва чыста малочнага напрамку даказала сваю карысьць насельніцтву, якое ў сучасны момант хутка арганізуецца у малочныя арцелі. Ужываньне моцных кармоў (клінцы, высеўкі) шпарка расьце: так, у 1926 г. разыйшлося каля 13 тысяч пудоў клінцоў, у 1927 г.—77 тысяч.

Аўцаводзтва будзе разьвівацца шляхам распаўсюджваньня мясаваўнянай пароды. для паляпшэньня мясцовай дробнай і малаваўнянай аўцы.

Ставіцца мэтаю шырокае распаўсюджаньне пароды скарасьпелай сьвіньні, годнай для адкорма на бэкон і экспорта. Гэта павысіць прыбытковасьць сьвінагадоўлі і дасьць магчымасьць павысіць тварнасьць гаспадаркі. Паляпшацелям мясцовай сьвіньні зьяўляецца белая ангельская сьвіньня.

Сталае паляпшэньне і павялічэньне завадзкога матар'ялу пачынаецца у нас з 1924 г. Рост злучных пунктаў па гадох ішоў так.

| ГОД. | Колькасьць злучных пунктаў. | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Конскіх | Бычых | З баранамі | З хракамі |
| 1924 г. | 202 | 120 | — | — |
| 1925 г. | 217 | 120 | 11 | 15 |
| 1926 г. | 221 | 162 | 11 | 36 |

Калі параўнаць з даваенным становішчам, дык у межах сучаснае вакругі была такая колькасьць злучных пунктаў:

| ГОД. | З жарабкамі | З быкамі | З хракамі |
|---|---|---|---|
| 1914 г. | 23 | 62 | 27 |

Аграмадная разьніца паміж 1914 і 1926 г. відавочна. Тлумачыцца яна тым, што Савецкая улада уцягнула само насельніцтва ў актыўную працу па жывёлаводзтву і матар'яльна падтрымлівае гэтую справу.

З 1925 г. увезена і раскінута па акрузе завадзкога ската: а) быкоў ангельскай і яраслаўскай пород—25 галоў б) жарабкоў арлоўскай пароды 11 галоў, в) завадзкіх авец мясаваўнянай пароды—72 галавы і г) завадзкіх сьвіней і подсьвінкаў 114 галоў.

Дзеля прапаганды культурнага ўтрыманьня жывёлы нашы агрономы і жывёлаводы праводзяць сярод насельніцтва шмат лекцый і гутарак.

Штогодна арганізуецца паказальнае кармленьне каля 80 кароў. Робіцца паказальнае пераабсталяваньне пуняў для жывёлы, 300-400 у год

# Вэтэрынарная справа.

## Вэтэрынар—вартаўнік нашых посьпехаў на жывёлаводным фронце.

Агульная каштоўнасьць усяго пагалоўя скота акругі (без Калінінщчыны) па прыблізным падлікам роўна 30 мільёнам рублёў і складае грунтоўную частку сялянскага багацьця акругі. Ня толькі павальная пошасьць, але і часовая хвароба часткі скота моцна б'е па кішэні селяніна. І таму сялянства, а таксама і інтарэсы краіны вымагаюць, каб вэтэрынарная арганізацыя стаяла на доўжнай вышыні. Каб яна магла поўнасьцю ахапіць і абслужыць вэтэрынарныя патрэбы насельніцтва.

Да вэтэрынарнай арганізацыі прад'яўляюцца вымаганьні ня толькі зьберагчы маючаеся пагалоўе скота, але і стварыць найлепшыя вэтэрынарна-санітарныя умовы для далейшага разьвіцьця жывёлаводзтва.

Дзяржава штогоду выдаткоўвае вялікія сродкі на мерапрыёмствы па паляпшэньню жывёлаводзтва, па павялічэньні таварнасьці сялянскай гаспадаркі па жывёлаводніцкай лініі. Калі-ж на доўжную вышыню ня будзе пастаўлена вэтэрынарная арганізація, значная частка гэтых мерапрыёмстваў ня дасьць пажаданага эфэкту, а часамі. пры масавых пошасьцях на жывёлу, могуць быць зьведзены на нуль.

## Вэтэрынарная арганізацыя ў 1913—14 годзе.

У апошні час да імпэрыялістычнай вайны вэтэрынарная арганізацыя Магілеўшчыны дасягнула найвялікшага роськвіту. І што мы тагды мелі?

Вэтэрынарная сетка складалася ўсяго з двох вэтэрынарных і трох фэльчарскіх пунктаў. Спэцыяльна пабудованых вэтэрынарных лячебніц ня было ніводнай. Па каштарысу на вэтэрынарыю адпушчана ўсяго 8795 рублёў. Хворых жывёлін у амбуляторыях прынята ўсяго 10 тысяч 292 галавы.

Вэтэрынарна-асьветнай работы сярод сялянства зусім не вялося. Прышчэпак ад заразных хвароб не рабілася, і таму процант сьмяротнасьці ад заразных хвароб быў вельмі вялікі. Быў выпадак, што чумой захварэла 543 галавы сьвіней, а пала 487 (90 процантаў); на сібірскую язву захварэла 80 галоў, а пала 70 (87 з паловай процантаў).

Адным словам, у самы лепшы дарэвалюцыйны год вэтэрынарная справа ў вакрузе была надзвычайна слабая. Вэтэрынарныя патрэбы сялянства абслугоўваліся у нязначнай ступені. Галоўная увага малалікавай вэтэрынарнай арганізацыі была зьвернута на абслужваньне паноў і кулацкай вярхушкі вёскі.

## Што мы маем у 1926-27 годзе.

Калі мы возьмем 1926—27 г. і будзем выхадзіць з разьліку, што тэрыторыя акругі без Калініншчыны прыблізна у тры разы больш тэрыторыі бышага Магілеўскага павету, дык убачым, што пры усёй нашай беднасьці мы выдаткоўваем на вэтэрынарыю больш, чымся ранейшае земства, і што вэтэрынарная арганізацыя цяпер лепш і паўней абслугоўвае шырокія колы сялянства.

Вучастковая сетка (без Калінінщчыны) састаіць з 10 вэтэрынарных і 6 фэльчарскіх пунктаў. Па каштарысу на вэтэрынарыю выдаткована 43 тысячы рублёў. Хворых прынята у амбуляторыях 51 тысяча 663 галавы. Прышчэпак супроць розных заразных хвароб зроблена 14 тысячам 910 галавам ската, процант сьмяротнасьці ад заразных хвароб ў выніку прышчэпак значна панізіўся. Так, напрыклад, на чуму захварэла сьвіней 591, пала 198 ($33^{1}/_{2}$ проценту); на сібірскую язву захварэла 157, пала 112 (71 процант).

Гэтыя лічбы ясна паказваюць, што дасягненьні маюцца, але спачываць на іх нельга. Яшчэ надта і надта многа трэба для таго, каб захаваць наша жывёлаводзтва і забясьпечыць яго далейшы выстарчаючы рост.

## Што будзе зроблена ў бліжэйшыя 5 гадоў.

У першую чаргу неабходна: 1) павялічыць чысло ўрачэбна-вэтэрынарных вучасткаў да 2—3 на раён у залежнасьці ад самага раёну, 2) забясьпечыць усе вучасткі спэцыяльнымі памяшканьнямі—лячебніцамі, 3) забясьпечыць бесперабойнае здавальненьне вучасткаў усём неабходным.

У бліжэйшы жа час неабходна даць мажлівасьць вэтэрынарным працаўнікам вольна перасувацца па вучастку для лепшага ажыцьцяўленьня вэтэрынарна-санітарнага нагляду і для сваечасовага прыняцьця супроцьпошасных мер.

---

# Лясная гаспадарка.

447.500 гэктараў лесу знаходзіцца ў граніцах акругі, што складае 10,4% ад усёй плошчы лясоў Беларускай рэспублікі і 24% ад агульнае плошчы зямлі ў нашай вакрузе.

Амаль што палова ўсіх лясоў знаходзілася ў руках памешчыкаў і багацеяў.

Рэвалюцыя адабрала лясы ад памешчыкаў і багацеяў і залічыла іх у дзяржаўны фонд, з якога потым частка лясоў перададзена сялянству і залічана ў лясы мясцовага значэньня.

Усяго ў сучасны момант перададзена сялянам лясоў мясцовага значэньня 125.000 гэктараў, гэта значыць больш адной чвэрці (28%) усіх лясоў акругі.

Лясы ў Беларусі маюць вялізнае значэньне. Акрамя здавальненьня патрэб насельніцтва і значэньня лясоў у сельскай гаспадарцы, лясы складаюць самую вялікую частку ў прыбытковых стацьцях нашае рэспублікі.

Гады імпэрыялістычнай і грамадзянскай войны мелі значны уплыў на становішча лясной гаспадаркі акругі: лясы былі значна зьнішчаны. Пагэтаму перад Савецкай уладай стала неадкладнай задачай падняць лясную гаспадарку. Гэтая праца пачалася з 1924 году.

У сучасны момант становішча лясоў значна палепшылася і зараз праводзіцца правільная эксплёатацыя іх.

Прыбытковасьць з лясной гаспадаркі значна павялічылась, і цяпер лясная гаспадарка дае прыбытку каля 1.700.000 рубл. у год, г. знач. на кожны гэктар выгаднай лясной плошчы прыходзіцца 5,7 рублёў прыбытку.

Скарыстаньне каштарысных лесасек робіцца такім чынам, каб у першую чаргу здаволіць насельніцтва і мясцовыя патрэбы. Зараз насельніцтва здавальняецца дравясінай будоўнай на 80 процантаў і дрывяной —

на 65 процантаў. Недахоп апалу для насельніцтва кампэнсыруецца дарэмным водпускам сучча і дробнага валежа.

Для лепшага здавальненьня сельскага насельніцтва адчынены склады ў 11 раёнах: Лупалаўскім, Быхаўскім, Шклоўскім, Чавускім, Кармянскім, Крычаўскім, Чэрыкаўскім, Краснапольскім, Касьцюковіцкім и Хоцімскім.

К сучаснаму моманту лесаўпарадкована лясоў дзяржфонду—100.000 дзес. або 31 процант к агульнай плошчы лясоў дзяржаўнага фонду. Гэту справу мяркуецца скончыць на працягу 5—7 гадоў.

Праводзіцца таксама лесаўпарадкаваньне лясоў мясцовай значнасьці, якіх к гэтаму часу ўпарадкована—27.000 дзес., ці $21^1/_2$ проценту ўсіх лясоў мясцоваго значэньня. У працягу 3—5 бліжэйшых гадоў лясы мясцовага значэньня будуць упарадкованы цалкам.

Маюцца дасягненьні і ў справе аднаўленьня лясной плошчы, як-та: засажана пітомнікаў—22 гэкт., засеяна—3.345 гэктараў лесу, зроблена пасадка на плошчы—2.183 гэктараў. За 7-10 гадоў будзе засеяна і засаджана лесам уся плошча, патрабуючая гэтага.

Адмячаецца прыемнае зьявішча: некаторыя вёскі клапоцяцца аб аднаўленьні сваіх лясоў і нават засяваюць лес на плошчах, якія няпрыгодны для сельскагаспадарчага іх скарыстаньня.

Побач с аднаўленьнем лясной гаспадаркі, прымячаецца зьніжэньне самавольных парубак; так, у 1923—24 годзе сума страт ад самавольных парубак складала 99.206 р., а у 1926—27 г. яна складае ўжо 44 тыс. рубл.

Таксама зьменшыўся лік пажараў, што тлумачыцца мерапрыёмствамі па абчыстцы лясоў ад захламленасьці.

---

# Сельска-гаспадарчая каапэрацыя.

Разьвіцьцё сельскай гаспадаркі ідзе пры дапамозе Савецкай улады, якая ўкладае ў гэту справу вялікія сродкі, як шляхам бюджэтных асыгнаваньняў, гэтак і праз сельска-гаспадарчы крэдыт і сельска-гаспадарчую каапэрацыю.

Асаблівая увага увесь час зварачваецца на пашырэньне каапэрацыі, бо агульнымі сіламі, праз каапэрацыю, селянін нашмат хутчэй перабудуе сваю гаспадарку.

У дарэвалюцыйны час у Магілеўскай акрузе існавалі па вёсках толькі крэдытныя і пазычкова-ашчадныя таварыствы. Налічвалася 43 крэдытных і 16 пазычкова-ашчадных таварыстваў, які выдавалі крэдыт на куплю зямлі, на наём працоўнай сілы, на уплату пазык і г. д.

Кредыт выдаваўся, галоўным чынам, больш моцным колам насельніцтва, якія мелі магчымасьць забясьпечыць пазыку сваёй маёмасьцю.

Спэцыяльных відаў каапэрацыі не існавала.

Толькі Кастрычнік паклаў моцны пачатак да разьвіцьця сельска-гаспадарчай каапэрацыі, як крэдытнай, так і спэцыяльных відаў.

У сучасны момант маем па акрузе буйную сетку сельска-гаспадарчых кааперацыйных аб'яднаньняў, у склад якіх уваходзяць:

| | |
|---|---|
| Камун . . . , . . . . . . . . | 10 |
| Сельскагаспадарчых арцеляў . . . . | 57 |
| Таварыств па сумеснай апрацоўцы зямлі | 25 |
| Крэдытных тавар. . . . . . . . | 38 |
| Сельскагаспадарчых тав. . . . . . | 23 |
| Малочных арцеляў , . . . . . . | 31 |
| Мэліарацыйных . . . . . . . | 118 |
| Агнятрывалых . . . . . . . . | 19 |
| Іншых (кантрольн., бычч., насенаводн. і др.). . . . . . . . . . | 79 |

Усі каапэратывы яднаюць к гэтаму часу 61 тысячу (у круглых лічбах) пайшчыкаў (без ліку сяброў, знаходзяшчыхся у меліарацыйных т-вах—каля 9½ тысяч), або 43% к агульнаму ліку двароў у акрузе.

За апошнія гады маем значны узрост каапэраванага насельніцтва; так, у 1924 годзе было каапэравана толькі 9,4% усіх двароў акругі, у 1925 годзе—20%, у 1926 годзе—31.7% і ў 1927 годзе—43%.

У праціваегласьць дарэвалюцыйнаму часу, калі у склад крэдытных таварыстваў уваходзілі больш заможныя, цяпер наша каапэрацыя складаецца, галоўным чынам, з бядняцкіх і серадняцкіх колаў насельніцтва, што бачна з наступнага.

На 1 кастрычніка 1926 году каапэратывы яднали:

| Па коням. | | Па колькасьці кароў. | |
|---|---|---|---|
| бясконных гаспадарак . . | 18% | бескароўных . . . . . . | 10% |
| з 1 канём . . . . . . | 57% | з 1 каровай . . . . . . | 54% |
| з 2 « . . . . . . . | 21% | з 2 « , . . . . . . | 31% |
| з 3 і больш . . . . . | 4% | з 3 і больш . . . . . . | 5% |

Такім чынам, сацыяльны склад пайшчыкаў зусім здавальняючы. Ведаючы, што ў сучасны момант усяго па акрузе лічыцца 7 процандаў бясконных гаспадарак і 4 проценты бескароўных, можна меркаваць, што амаль усі бясконныя і бескароўныя гаспадаркі зьяўляюцца сябрамі каапэратываў.

З асобных відаў каапэрацыі, неабходна застанавіцца на калектыўных гаспадарках, крэдытнай і малочнай каапэрацыі.

## Калектыўныя гаспадаркі.

Калектыўныя гаспадаркі зьяўляюцца дзіцёнкам Кастрычніку. Гэта Кастрычнік паклаў пачатак грамадзкаму землякарыстаньню з аб'яднаньнем усіх вытворчых працэсаў, з сумеснаю уласнасьцю на жывы і мёртвы інвэнтар, з сацыялістычным разьмеркаваньнем прадуктаў, атрыманых ад сумеснай працы.

Першыя калектывы знайшлі сабе месца у былых панскіх маентках, адабраных рэвалюцыяй.

Зараз мы маем досыць устойлівую іх сетку (92 камуны, калгасы і таварыствы па супольнай апрацоўцы зямлі). Яны амаль усе земляўпарадкованы, перайшлі на шматпольле і выяўляюць адзнакі здаровага росту.

Ураджаі ў іх 60-70 пудоў у сярэднім (супроць сялянскіх 45-50 пудоў), яны разводзяць палепшаную жывёлу, маюць гантунковае насеньне, злучныя пункты, дапамагаюць ваколічнаму насельніцтву. Абслугоўваньне калгасаў з боку Сельсаюзу да апошняга часу вельмі кульгала і толькі з ліпеня гэтага году, калі з'арганізавалася пры Сельсаюзе сэкцыя калгасаў і узмацніўся інструктарскі апарат, пачалося сыстэматычнае арганізацыйна-вытворчае іх абслугоўваньне. І ў далейшым патрэбна яшче шмат працы па арганізацыйнай, агранамічнай і матар'яльнай дапамозе нашым калгасам, каб стварыць з іх сапраўды ўзорныя сацыялістычныя ячэйкі, пабудаваныя на грунце машынізацыі, перaапрацоўкі прадуктаў і індустрыялізацыі сельскае гаспадаркі.

У бліжэйшы час мяркуецца ў калгасах пабудаваць шэсьць заводаў па выпрацоўцы сыроў, адзін маслабойны завод і шэраг другіх прадпрыемстваў. У камуне „Красная Заря“ будзе пабудованы буйны крухмальны завод, які аб'яднае для данае вытворчасьці, акрамя гэтае камуны, яшчэ камуну «Беларусь», калгасы «Серп» і „Победа“.

## Крэдытная каапэрацыя.

Крэдытныя таварыствы пачалі прапаваць чатыры гады таму назад. Яны хутка разьвінулі сваю працу і зараз маюць значныя дасягненьні.

К дзесятай гадавіне Кастрычнікавай рэвалюцыі у нашай акрузе працуюць 38 сельска-гаспадарчых кредытных таварыств, якія яднаюць каля 52 тысяч сялянскіх двароў, або 38 процантаў гаспадарак акругі.

Зваротных сродкаў у гэтых таварыствах маецца на 3 мільёны 207 тысяч рублеў; з іх уласных сродкаў, утворных з паёў, уступных узносаў, укладаў і прыбыткаў — каля 17 процантаў. Астатнія 83 проценты атрыманы для крэдытаваньня насельніцтва у акрсельбанку і, ў нязначнай частцы, у другіх арганізацыях.

У сярэднім, усіх зваротных сродкаў, якія маюцца ў крэдытных таварыствах, прыходзіцца на 1 пайніка 60 руб. (У асобных выпадках запазычанасьць сялян па пазыках бывае ад 30 да 200 р.).

*Галоўнай* і асноўной работай усіх крэдытных таварыстваў зьяўляюцца *пазычковыя апэрацыі*: 55 процантаў усіх сродкаў знаходзіцца у пазыках, якія выданы сялянству на вытворчыя патрэбы сельскай гаспадаркі, як-та: на закупку рабочай і малочнай жывёлы, збожжа, сельскагаспадарчага інвэнтару і машын, на будынкі, на канюшыну і на розныя іншыя мэты, якія спрыяюць уздыму і паляпшэньню сялянскай гаспадаркі.

Каму і на што ідзе дапамога ад крэдытных таварыстваў?

Трэці Усесаюзны Зьезд Саветаў у сваёй рэвалюцыі адзначыў, што „вызначэньне крэдытных сродкаў павіяна быць цесна увязана з вытворчымі плянамі зямельных органаў і разьлічана на пераважнае здавальненьне гаспадарчых патрэб серадняцкіх і бедняцкіх колаў вескі і іх аб'яднаньняў".

Крэдытныя таварыствы ў сваіх справаздачах паказваюць, што пазычковыя сродкі ішлі так: бядняцкім гаспадаркам—53 проценты, серадняцкім—37 процантаў, заможным—4 проценты і калектыўным гаспадаркам—5 процантаў, Гэтыя паказаньні крэдытных таварыстваў патрабуюць праверкі іх сапраўднае дакладнасьці, так як упаўне магчымы памылкі і няправільнасьці у адзначэньні сацыяльных груп гаспадарак, а патаму акруговы камітэт партыі даручыў асобнай камісіі праверыць, шляхам выездаў на месцы, ці сапраўды крэдыт пападае у бедняцка-серадняцкія двары, як гэта паказана крэдытнымі таварыствамі.

Другая важная работа крэдытнай кааперацыі—*снабжэньне сельскага гаспадара і збыт яго прадуктаў*. За четырохгадовае сваё існаваньне крэдытная кааперацыя дасянула тута даволі значных вынікаў, ахапіўшы снабжэньнем машынамі, інвэнтаром і культурнымі семянамі да 75 процантаў усіх рыначных закупак сялянскай гаспадаркі і затрачваючы на гэта да 15 процантаў зваротных сродкаў. Гэтым самым крэдытная каапэрацыя дапамагала машынізацыі сельскіх гаспадарак, спрыяла паляпшэньню апрацоўкі глебы, лепшаму абмалоту збожжа і прызвычайвала сялян к травасеяньню, прымяненью мінэральнага і зялёнага угнаеньня і к ачыстцы насеньня.

Што-ж датычыцца ахвата крыдытнай каапэрацыяй збыта прадуктаў вытворчасьці сельскай гаспадаркі, то гэта работа, з прычыны яе слабай наладжанасьці, яшчэ не разьвінута, але усе-ж зварот па гэтай апэрацыі за бягучы год складаў даволі значную суму—да 900 тысяч рублёў.

У апошні час зварочваецца вялікая увага да ўцягненьня ў таварыствы *ўкладаў*. Калі у 1924 годзе укладаў мелася ўсяго 1.868 рублеў, то цяпер яны узраслі да 133 тысяч рублёў. Усё-ж уклады, калі параўнаць суму іх з укладзенымі у справу крэдытаваньня дзяржаўнымі сродкамі, складаюць нязначны процант: на кожны дзяржаўны рубель прыходзіцца ўкладаў толькі 6 капеек. (У даваенны час уклады складалі 60 процантаў зваротаў крэдытных таварыстваў). Такое слабае прыцягненьне укладаў тлумачыцца недастатковай яшче сьвядомасьцю насельніцтва, а таксама імкненьнем сельскіх гаспадароў захоўваць свае сродкі ў натуральным накапленьні, шляхам павялічэньня жывога і няжывога інвэнтару ў сваёй гаспадарцы.

У бягучым годзе на крэдытную каапэрацыю, першы раз за час яе існаваньня, была ускладзена вялікая адказная праца па рэалізаваньні трэцяй сялянскай выйгрышнай пазыкі. Гэтая задача была выканана здавальняюча: граадзена пазыкі на 70.000 рублёў, амаль-што 90 процантаў.

Галоўнымі перашкодамі ў рабоце крэдытнай кааперацыі, якія затрымліваюць яе больш пасьпяховае разьвіцьцё, зьяўляюцца:

1) адсутнасьць крэдытнай дысцыпліны сярод пайнікаў, з прычыны чаго пазыкі, якім прапушчан тэрмін, складаюць значны процант, як-та: 7,8% усіх выданых пазык.

2) Слабае разьвіцьцё укладных апэрацый і недахоп зваротных сродкаў, дзякуючы чаму патрэбнасьць пайнікаў у пазыках ня можа быць здаволена цалком, а толькі на палову і нават менш.

3) Неспрактыкаванасьць работнікаў крэдытных таварыстваў, дзякуючы чаму частка доўгатэрміновых крэдытаў раздадзена у каротка-тэрміновыя пазыкі; пазыкі часам раздаваліся мэханічна, без абсьледваньня гаспадаркі пазычальніка і без дакладнага высьвятленьня яго матар'яльнага становішча і патрэбы ў крэдыце.

4) Скарыстаньне фонду крэдытаваньня вясковай беднаты для серадняцкіх гаспадарак і нават гаспадарак заможнай часткі насельніцтва.

Сельска-гаспадарчы крэдыт зрабіў вялікі ўплыў на сельскую гаспадарку.

Амаль-што трэцяя частка двароў атрымала крэдыт на набыцьцё коняй, кароў, сельска-гаспадарчых прылад, машын і інш. Лік бесканёвых гаспадарак скараціўся з 16 да 7 процантаў, а бескароўных—з 12 да 4 процантаў.

У час бяскорміцы вясной гэтага году выдадзена пазык на корм жывёлы чатыром тысячам сялянскіх гаспадарак і, апроч таго, каля 6600 гаспадарак было здаволена насеньнем аўсу, ячменя і бульбы.

Разам з тым, крэдыт аказаў вельмі значную дапамогу ўсім галінам сельска-гаспадарчай каапэрацыі. Няма такога сельска-гаспадарчага каапэратыву, які-бы не карыстаўся крэдытнай дапамогай.

Падтрымліваючы калектыўныя гаспадаркі і усе іншыя сельска-гаспадарчыя каапэратывы, дапамагаючы стварэньню усё новых і новых каапэратываў, прызвычайваючы насельніцтва да кааперацыйнае вытворчасьці, збыта і снабжэньня, крэдыт дзень за днём паволі накіроўвае нашу вёску, нашу сельскую гаспадарку на сацыялістычны шлях, на шлях Кастрычніка.

# Нашы малочныя арцелі.

Малочная каапэрацыя пачала разьвівацца тры гады таму назад. У 1924 годзе існавала 4 малочных арцелі для пераапрацоўкі малака.

Зараз мы маем ужо 31 малочную арцель з 1425 сябрамі.

Асабліва шпарка расьлі арцелі ў апошнім годзе, калі лік іх павялічыўся на 13, а лік сяброў узрос больш, чымся удвая (на 123 проценты).

Акрамя малочных арцеляў, пераапрацоўкай малака займаюцца яшчэ 8 каапэрацыйных аб'яднаньняў (два крэдытных таварыствы, 4 сельска-гаспадарчых таварыствы і 2 калгасы). Але ў іх справа разьвіцьця малочнае вытворчасьці ідзе значна слабей, што тлумачыцца з аднаго боку тым, што яны менш аддаюць увагі вытворчай працы, з другого боку, яны зьяўляюцца якбы прадпрыемцамі ў адносінах завозчыкаў малака, якія ня вельмі зацікаўлены ў справах свайго „прадпрыемцы". Гэта акалічнасьць паказвае, што дапамога з боку дзяржавы і сельска-гаспадарчага саюза павінна ісьці па лініі малочных арцеляў.

Яшчэ больш шпарка расьце вытворчасьць. У сёлетні сэзон агульная выпрацоўка сыру складае каля 12 тысяч пудоў (у мінулым годзе толькі 4½ ты-

сячы) на суму каля 200 тысяч рублёў і каля 800 пудоў масла на суму 20 тысяч рублёў.

Па якасьці наш сыр зусім добры. У мінулым годзе і сёлета ён ідзе за першы сорт. Дасягнута і аднатыповасьць у выпрацоўцы сыру усімі заводамі.

Зараз у раёнах дзейнасьці сыраварaных заводаў пастаўка малака дае добры зарабак сялянству. У тэй час, як раней малако з гаспадаркі увыйходзіла няпрыметна, не даючы нічога. Раней некуды было яго збываць, цяпер-жа стварылася месца збыту. І селянін стаў адчуваць зацікаўленасьць у тым, як-ба гэта павялічыць колькасьць малака. Гэта значыць, стаў цікавіцца павялічэньнем статку, паляпшэньнем яго, лепшым утрыманьнем і даглядам сваіх кароў, павялічэньнем засеву траў, бульбы і караньплодаў. Даволі сказаць, што ў мінулым годзе разыйшлося ў акрузе звыш 60 тысяч пудоў клінцоў, з якіх каля 80 процантаў прыпадае на долю малочных арцеляў (і гэтае колькасьці далёка не хапіла), ў тэй час, як ў папярэднім годзе клінцоў было закуплена сялянствам усяго 12 тысяч пудоў.

## Лепшыя арцелі.

Зразумела, што адны арцелі працуюць лепш, другія-горш. Звычайна, з пачатку арганізацыі арцель работае слабей і толькі на другі год (атрымаўшы вядомы прыбытак ад апэрацый мінулага года), арцель лепш абсталёўваецца і падраўніваецца да агульнага узроўню.

З усіх арцеляў заслугоўваюць быць адмечанымі, як лепшыя, чатыры наступных: гэта—Сіўкова-Галынецкая арцель, Магілеўскага раёну, у якой усі члены сеюць травы і амаль на палову—караньплоды. Арцель мае злучны пункт з 2 быкамі ангельскай пароды. І яшчэ тры—у Латыскай Рошчы, Бахацецкая і Чэрнеўская (усі Лупалаўскага раёну). Усі гэтыя 4 арцелі плату за малако утвараюць па яго тлустасьці, у іх добра абсталяваны заводы, на вышыні стаіць арганізацыйная пастановка справы (рахункаводства), усі маюць злучныя пункты.

Гэтыя чатыры арцелі ў сёлетнім годзе пабудавалі, з дапамагаю крэдыту, спэцыяльныя сыраварaныя заводы (майстэрня, 3 падвалы, лядоўня), на што выдаткована па 5 тысяч рублёў на кожны завод.

Апроч таго, апошнія 2 арцелі (Бахацецкая і Чэрнеўская) купілі мэханізаваны інвэнтар для сваіх заводаў, пры дапамозе якога будзе дасягнута паляпшэньне якасьці сыроў і падзешаўленьне іх каштоўнасьці

## Пэрспэктывы разьвіцьця.

Трэба чакаць, што існуючыя арцелі будуць усё больш уцягваць пайчшыкаў, пашыраць і паляпшаць сваю вытворчасьць.

Наконт-жа стварэньня новых малочных арцеляў трэба сказаць вось што. Мінуў ужо той час, калі прыходзілася „ствараць“ малочныя арцелі. Зараз жадаючых аб‘яднацца у арцелі больш, чымся ёсць мажлівасьці іх задаволіць крэдытамі (якія, зразумела, абмежаваны). Пагэтаму прыходзіцца рэгуліраваць сетку малочных арцеляў, адчыняць новыя там, дзе ёсьць найбольш добрыя умовы для іх разьвіцця, і не дапушчаць стварэньня новых арцеляў там, дзе блізка ужо існуюць арцелі.

У сёлетнюю зіму магчыма арганізаваць толькі 12 новых малочных арцеляў.

# Агнятрывалае будаўніцтва.

Вельмі значныя сродкі укладаюцца сельскім насельніцтвам на пабудову вясковых будынкаў. Сродкі гэтыя ў некалькі разоў перавышаюць каштоўнасьць будынкаў у гарадох разам з абсталяваньнем фабрык і заводаў.

Пагэтаму кіраваньне вясковым будаўніцтвам мае, бязумоўна, вялікае значэньне.

Работа па кіраваньню сельскім будаўніцтвам была распачата толькі ў мінулым годзе

На працягу году было арганізавана 6 каапэрацыйных бэтонных майстэрняў і 15 цагельных заводаў.

Бэтонныя майстэрні выраблілі 2 злішком тысячы бэтонных калодзежных кольцаў, 19 тысяч пустацелых камняў і 6½ тысяч штук цамэнтнай чарапіцы, а цагельнымі заводамі апалена 530 тысяч штук цэглы.

Каштоўнасьць гэтай прадукцыі выражаецца у сумме 33 тысячы рублёў.

На гэту справу атрымлена крэдыту 18 тысяч 850 рублеў і ўласных сродкаў на абсталяваньне майстэрняў і заводаў і на набыцьцё матар'ялаў каапэратывамі выдаткована да 18 тысяч рублёў.

З выробленых матар'ялаў было пабудована дзьве бэтонных хаты, адна хата бэтонна-драяўляная, 28 бэтонных склепаў 4 чарапічных страхі і 2 — гліна-саламяныя, 78 бэтонных студняў, цагельная хата і адна бэтонна-драўляная пуня.

З пабудаваных хат дзьве на зіму былі ўжо залюднёны, і скарг на холад і вільгаць з боку гаспадароў гэтых хат не паступала.

Для падрыхтоўкі інструктароў па агнятрываламу будаўніцтву на вёсцы, а таксама і майстроў сельскіх майстэрняў і заводаў, былі адчынены месячныя курсы на 29 чалавек.

З такімі дасягненьнямі быў закончан леташні год.

Сёлета работа па агнятрываламу будаўніцтву значна пашырылася.

Штат работнікаў пры земаддзеле павялічан да 4 з палавінай тэхнічных адзінак.

Дадаткова арганізована дзесяць бэтонных майстэрняў і тры напольных цагельных заводы.

Бэтонныя майстэрні перапрацавалі ўжо 41 вагон цамэнту і выраблілі каля 3½ тысяч штук калодзежных кольцаў, 32 тысячы пустацелых камняў і 122 тысячы чарапіцы, 40 штук дымагарных труб і 55 штук штандар-шул.

А цагельнымі заводамі выраблена да 900 тысяч штук цэглы.

Каштоўнасьць выробленай прадукцыі дасягнула 62 тысяч рублёў. Значыцца, каштоўнасьць вырабу сёлетняга году ў 3 з паловай разы перавышае каштоўнасьць леташняга вырабу.

З выробленых матар'ялаў пабудованы: адна бэтонная хата, адна бэтонна-драўляная, 19 цагляных, адна гліна-гальлёвая, 2 бэтонных сыраварaных заводы, 10 цагляных амбараў для сыроў, 4 бэтонных і 1 гліна-гальлёвая пуня, 47 бэтонных падмуркаў, 38 бэтонных склепаў, 28 чарапічных стрэх і 3 страхі гліна-саламяныя і 113 бэтонных калодзежаў.

У якасьці крэдыту скарыстана да 35 тысяч рублёў і да 40 тысяч уласных сродкаў таварыстваў і насельніцтва.

Гэтыя дасягненьні яшчэ вельмі малыя і ў значнай меры паменшыць ліха вясковых пажараў яны ня могуць.

Вялікшае значэньне у разьвязаньні гэтага пытаньни мае захаваньне правіл аб забудоўлі паселішч. Калі будуць захоўвацца неабходныя адлегласьці паміж будынкаў, дык ня толькі паменшыцца пагроза пажараў, але ў дадатак палепшыцца і санітарнае становішча вёсак.

# Прамысловасьць.

У даваены час прамысловасьць Беларусі, у выніку адсутнасьці памысных эканамічных і палітычных умоў, насіла выпадковы характар.

Цэлы шэраг відаў прамысловасьці ня мог атрымаць свайго разьвіцьця з-за адсутнасьці навуковых абсьледваньняў прыродных багацьцяў раёну і недахопу капіталу ў краіне. Таксама і нацыянальная палітыка царскага ураду перашкаджала разьвіцьцю у Беларусі буйнай прамысловасьці, бо разьвіцьцё яе пацягнула-б за сабой утварэньне на ускраіне імпэрыі буйных цэнтраў баявога прамысловага пралетарыяту, што зусім было непажадана для улады.

Тым ня менш, сярэдняя і дробная апрацоўваючая прамысловасьць у перадваенныя гады стала даволькова разьвівацца; разьвіваліся пераважна тыя яе віды, якія зьвязаны з мясцовай сыравінай, дастаўляемай сельскай і лясной гаспадаркай.

Агульная колькасьць занятых у прамысловасьці асоб дасягала да 25.000 чалавек, з якіх на дробную і рамесьніча-саматужную прамысловасьць прыпадала звыш 20.000 чалавек.

Адсутнасьць прывозу неабходнага сельска-гаспадарчага інвэнтару з буйных цэнтраў і закіданасьць селішч у Магілеускіх лясох служылі прычынай гэткага бурнага разьвіцьця саматужнай прамысловасьці.

Што датычыцца буйнай (цэнзавай) прамысловасьці, то узьніканьне яе насіла выпадковы харақтэр: фабрыкі і заводы ў большасьці будаваліся у буйных панскіх уладаньнях, меўшых адпаведную колькасьць сыравіны і дзяшовую рабочую сілу, па-за ўсялякай плянавасьці і выключна з мэтай карысьці. Гэтым тлумачыцца разгалінаваньне сеткі бравароў (67, амаль палавіна колькасьці прадпрыемств у 1914 г.).

## Цэнзавая прамысловасьць.

Уся буйная (цэнзавая) прамысловасьць у даваенны 1914 год прадстаўляецца у наступным відзе:

| Галіны прамысловасьці. | Колькасьць Прадпрыемстваў | Колькасьць Рабочых | Агульная выпрацоўка у чырв. руб. |
|---|---|---|---|
| Папяровая | 3 | 482 | 1.889.680 |
| Скураная | 7 | 75 | 278.080 |
| Харчэўная | 13 | 293 | 2.142.380 |
| Вінакураная | 67 | 688 | 1.722.200 |
| Шкляная | 1 | 80 | 94.800 |
| Цагельная | 7 | 360 | 306.520 |
| Древаапрацоўваюч. | 8 | 253 | 383.940 |
| Мэталяапрацоўваюч. | 1 | 15 | 12.640 |
| Выпрацоўка электраэнерг. і вада | 2 | 18 | 57.161 |
| Паліграфічная | 8 | 140 | 260.600 |
| Іншая | 10 | 212 | 396.580 |
| Разам | 127 | 2.616 | 7.544.784 |

1914 г. ня толькі па нашай акрузе, але і па ўсёй быўшай Расеі зьяўляецца годам эканамічнага красаваньня; як прамысловасьць, так і іншыя галіны гаспадаркі дасягаюць наівышэйшага эканамічнага ўзросту. Затым вайна, пачатая імпэрыялістамі, а потым і грамадзянская вайна вядуць к парушэньню прамысловасьці усёй краіны.

Наступныя лічбы на 1922 г. яскрава характарызуюць, наколькі была парушана гаспадарка акругі.

| Галіны прамысловасьці | Колькасьць: Прадпрыемстваў | Колькасьць: Рабочых | Агульная выпрацоўка у чырв. руб. |
|---|---|---|---|
| Папяровая | 1 | 500 | 616.200 |
| Скураная | 6 | 31 | 52.054 |
| Харчэўная | 5 | 182 | 429.490 |
| Вінакураная | 3 | 30 | 25.833 |
| Шкляная | 1 | 50 | 20.856 |
| Цагельная | 2 | 50 | 21.891 |
| Дрэваапрацоўваючал | 2 | 83 | 41.271 |
| Мэталяапрацоўваючая | — | — | — |
| Выпрацоўка электраэнэргіі і вада | 3 | 25 | 31.440 |
| Паліграфічная | 2 | 74 | 39.500 |
| Іншая | 6 | 186 | 107.077 |
| Разам | 31 | 1.221 | 1.385.612 |

Такім чынам у 1922 г. у параўнаньні з 1914 г. адбылося зьмяншэньне: колькасьці рабочых ў 2 разы, прамысловых прадпрыемстваў у 4 разы і агульнай выпрацоўкі больш чым у пяць раз. Прычыны, чаму савецкая улада ў першыя гады свайго існаваньня, ня мела магчымасьці ня толькі адбудаваць, але нават перашкодзіць далейшаму руйнаваньню прамысловасьці, усім вядомы.

Пэрыяд з 1922 па 1927 год зьяўляецца часам адбудаваньня, калі рабочыя і сяляне, адсьвяткаваўшы перамогу над сваімі ворагамі, з рэвалюцыйнай энэргіяй будуюць новую, сацыялістычную гаспадарку на старых разваλінах.

На 1926-27 год наша цэнзавая прамысловасьць мела такі выгляд:

| Назва прадпрыемстваў | Лік | Лік рабочых | Валавая прадукцыя па прадажнай цане |
|---|---|---|---|
| Цагельная . . . . . . | 2 | 96 | 121134 |
| Шкляная . . . . . . | 1 | 305 | 264674 |
| Мэталяапрацоўваючая . . | 1 | 67 | 125692 |
| Лесапільная . . . . . . | 4 | 133 | 515237 |
| Піваваранаяя . . . . . | 1 | 69 | 272110 |
| Вінакураная . . . . . . | 16 | 195 | 2390796 |
| Харчэўная . . . . . . . | 4 | 115 | 1008383 |
| Маслабойная . . . . . . | 1 | 39 | 632774 |
| Жывёлабойная . . . . . | 1 | 26 | 75814 |
| Скураная . . . . . . . | 5 | 137 | 565722 |
| Вопратка і абутак . . . | 2 | 129 | 149187 |
| Папяровая . . . . . . . | 1 | 673 | 2687704 |
| Выпрацоўка электрычнасьці і вада . . . . . . | 5 | 63 | 386029 |
| Паліграфічная . . . . . | 2 | 139 | 135546 |
| Тарпяная . . . . . . . | 1 | 63 | 21563 |
| Разам. . | 47 | 2289 | 9352365 |

Становішча прамысловасьці у мінулым 1926-1927 годзе ў параўнаньні з 1922 годам відаць з наступнай таблічкі.

| Кольkасьць | | | | Агульная прадукцыя у чырвон. руб. | |
|---|---|---|---|---|---|
| Прадпрыемстваў | | Рабочых | | 1922 г. | 1926—27 г. |
| 1922 г. | 1926—27 г. | 1922 г. | 1926—27 г. | | |
| 31 | 47 | 1221 | 2289 | 1.385.612 | 9.352.365 |
| 100% | 150% | 100% | 188% | 100% | 675% |

Такім чынам, колькасьць прамысловых прадпрыемстваў павялічалася на 50%, колькасьць рабочых на 88%, і разам з тым каштоўнасьць агульнай прадукцыі павалічалася на цэлых 575%.

Каль-ж зрабіць параунаньне становішча прамысловасьці 1926—27 г. з даваенным 1914 г., то будзем мець наступныя вынікі:

| Колькасьць | | | | Агульная прадукцыя у чырвон. руб. | |
|---|---|---|---|---|---|
| Прадпрыемстваў | | Рабочых | | | |
| 1914 г. | 1926—27 г. | 1914 г. | 1926—27 г. | 1914 г. | 1926—27 г. |
| 127 | 47 | 2616 | 2289 | 7.544.784 | 9.352.365 |
| 100% | 36% | 100% | 88% | 100% | 127% |

Гэтыя лічбы красамоўна говораць аб тым, што Савулада здольна намнога лепш вясьці сваю гаспадарку, чым капіталісты, у якіх рабочыя гнулі сьпіны па 12 гадзін у зьмену.

Працуючы у сваёй рабочай дзяржаве па 8 гадзін у зьмену, 2289 рабочых выпрацавалі вырабаў на сумму звыш, чымся у $1^{1}/_{4}$ разы больш таго, што 2616 рабочых у даваенны час.

Апошня два гады для цэнзавай прамысловасьці характэрны яшчэ тым, што ад адбудоўчага пэрыяда мы перашлі к пераабсталяваньню нашых фабрык і заводаў.

Як характэрны прыклад, можна назваць аднаўленьне і пашырэньне маслабойнага заводу „Заря“ у Магілёве і папяровае фабрыкі „Спартак“ у Шклове.

---

*СТАНОВІШЧА БУЙНАЙ (ЦЭНЗАВАЙ) ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ.*




*Дыяграма паказвае лік рабочых і каштоўнасьць вытворчасьці ў 1914 годзе, у 1922 годзе, годзе найвялікшага занядаду, і ў апошнім годзе.*

Неабходна адзначыць, што, адначасна з адбудаваньнем парушаных фабрык і заводаў, Савецкая улада пабудавала натугамі рабочых новы скураны мэханізіраваны завод „імя Лекерта“ і некалькі электра станцый у раённых цэнтрах.

Цікава параўнаць апошні 1926-27 гаспадарчы год з папярэднім 1925-26 годам

Колькасьць рабочых зьменшылася на 66 чалавек (у сувязі з зачыненьнем трох прыватных скураных заводаў), але колькасьць тавараў, выпушчаных усімі прадпрыёмствамі, павялічалася увогуле на 15%. Зарабак рабочых павялічыўся на 7,2%, а вытворчасьць працы на 26 %.

## Мясцовая прамысловасьць.

Разгледзім цяпер прамысловасьць нашае акругі, якая знаходзіцца ў веданьні акруговага і раённых выканаўчых камітэтаў.

Прамысловасьць, якая знаходзіцца у веданьні АВК і РВК, носіць назву мясцовай прамысловасьці.

### Магілеўскі камунальны трэст.

Усі прамысловыя прадпрыёмствы г. Магілева аб'яднаны у Магілеўскі камунальны трэст.

Да 1924 году прамысловыя прадпрыёмствы г. Магілева былі падпарадкованы розным установам і ня мелі належнага тэхнічнага кіраўніцтва, а ў пытаньнях фінансірваньня іх, задавальненьня сыравізнай і збыта вырабу ня было парадку і сыстэмы.

Толькі з 1-га студзеня 1924 года было арганізована упраўленьне гарадзкімі прадпрыёмствамі, куды ўвайшлі наступныя прамыслова-камунальныя прадпрыёмствы: электрастанцыя, вадаправод, жывёлабойня з утылізацыйным і альбумінным заводамі і бэтонны завод, усяго 4 прадпрыёмствы з 89 рабочымі.

Паступова к 4 прадпрыёмствам прыбавіліся: 2 цагляных заводы, чыгунна-літэйны і мэханічны завод „Красный Возрожденец“, лесапільна-мукамольны „Красная Звезда“, тарпяны завод і друкарня.

Рух рабочых па гадох выяўляецца у наступных лічбах:

| ГАДЫ: | 1923/24 | 1924/25 | 1925/26 | 1926/27 |
|---|---|---|---|---|
| Лік рабочых . . . | 84 | 327 | 479 | 579 |

З павялічэньнем колькасьці рабочых расьце і кошт выпушчаемых тавараў:

| ГАДЫ: | 1923/24 | 1924/25 | 1925/26 | 1926/27 |
|---|---|---|---|---|
| Кошт тавараў у чырв. руб. | 143.778 | 451.444 | 723.036 | 1.107.934 |

З ростам выпушчаемых тавараў павялічваецца і зарплата рабочых у месяц: з 45 руб. у 1923/24 г. да 64 руб. у 1926/27 г.

З прычыны зношанасьці будынкаў, сілавых установак і машыннага абарудваньня, дастаўшыхся ад быўшай гарадзкай управы і пры-

ватных уладароў, неабходна было амаль штогодна для нармальнай працы прадпрыёмстваў рабіць капітальныя рамонты.

Капітальныя затраты, уложанныя у прадпрыёмствы, па гадох выяўляюцца наступнымі лічбамі:

| ГАДЫ: | 1923/24 | 1924/25 | 1925/26 | 1926/27 |
|---|---|---|---|---|
| Капітальныя укладаньні у руб. | 1000 | 31.811 | 88558 | 119.865 |

У сувязі з павялічэньнем ліку прадпрыёмстваў і капітальнымі укладаньнямі, павялічвалася па гадох каштоўнасьць маёмасьці:

| ГАДЫ: | 1923/24 | 1924/25 | 1925/26 | 1926/27 |
|---|---|---|---|---|
| Кошт маёмасьці | 500.638 | 653.106 | 806.820 | 1.361.563 |

Лепшая пастаноўка справы, правільнае снабжэньне сыравінай заводаў і арганізацыя збыту пазволілі камунальнаму трэсту зьнізіць цэны на свае вырабы, у сярэднім на 10%, адначасова палепшыўшы якасьць іх.

---

*НА АКРУГОВУЮ ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ.*




***З дыяграмы відаць узрост па гадох капітальных ўкладаньняў на прадпрыёмствы Магілеўскага камунальнага трэсту.***

## Раёнаая прамысловаць.

Да 1925/26 г. раённая прамысловасьць, якая складаецца галоўным чынам з прадпрыёмстваў па пераапраацоўцы прадуктаў сельскае і лясное гаспадаркі, эксплёатавалася за малымі выключэньнямі (Крычаўскія прадпрыёмствы) арандатарамі-прыватнікамі.

Апошнія-ж, маючы на мэце выключна нажыву, не рабілі патрэбных капітальных рамонтаў машыннага абарудаваньня і будынкаў, чым паніжалі кошт народнае маёмасьці.

Адначасова з гэтым арандатары млыноў, бяручы плату за памол зярна натураю і займаючыся скупкай зярна, відавочна павышалі цэны на зярно і тым падрывалі дзяржаўную палітыку у справе снабжэньня насельніцтва зернапрадуктамі.

У мэтах правільнай пастаноўкі і развіцьця мясцовай прамысловасьці некаторыя райвыканкамы узяліся за непасрэдную эксплёатацыю прадпрыёмстваў, утвараючы свае камбінаты, куды увайходзяць электрастанцыі, млыны, жывёлабойні, лесапільныя заводы і інш.

У 1925/26 г. утвораны раённыя камбінаты у б. Калініншчыне—у г. Клімавічах, Касьцюковіцкім р. і ў Крычаве, якія аб'ядналіся яшчэ да далучэньня Калінінскае акругі к Магілёўскай—у трэст. У Магілеўскай акрузе утвораны камбінаты: у г. Шклове, Чавусах і Быхаве; таксама паложан пачатак утварэньню камбіната у Прапойскім раёне з пераходам у эксплёатацыю Р. В. К. Прапойскага паравога млыну.

Усе гэтыя камбінаты налічваюць к цяперашняму часу 18 камбініраваных прадпрыёмстваў з 26 вытворчымі адзінкамі, у тым ліку электрастанцый—3, тарпяных распрацовак—2, млыноў 9, лесапільных заводаў—7, вынакураных заводаў—1, друкарня—1, баня—1, жывёлабоен—3.

Рабочых у іх налічваецца 222 чал., агульная гадавая прадукцыя (без сыравіны заказчыкаў) па сабекаштоўнасьці складае 855.975 руб.

Кошт маёмасьці усіх вышэйпаказаных камбінатаў складае 625.033 руб.

За пэрыяд часу з 1925 па 1927 г. пабудован зусім новы камбінат у г. Клімавічах (электрастанцыя, лесапілка, млын і інш.); адноўлен Касьцюковіцкі вінзавод; даабарудваецца бачарнае аддзяленьне на Бароўскім лесапільным заводзе, набыта ад каапэрацыі Шклоўская электрастанцыя і Прапойскі млын; заканчываецца пабудова новай электрастанцыі у Чавусах і г. Быхаве па 100 конскіх сіл кожная.

К сьвяту Кастрычніка закончаны будынкі для новага сілікатнага заводу у г. Клімавічах па вырабу сілікатнай цэглы (з вапны і пяску без абжыгу), дзеля якого зімой прыбудзе з заграніцы заказанае там абсталяваньне; к заводу праведзена чыгунадарожная ветка даўжынёю у 2 вярсты. Агульная каштоўнасьць сілікатнага заводу арыентыровачна—316 тысяч руб. Ён будзе выпушчаць каля 5 мільёнаў штук цэглы у год па цане 25 руб. за тысячу.

Апрача раённай прамысловасьці, эксплёаціруемай непасрэдна выканкомамі, вялікае значэньне мае дробная і кустарна-рамесьніцкая прамысловасьць як па ліку занятых у ёй асоб, так і па кошту выпускаемых вырабаў.

# Дробная прамысловасьць.

Нягледзячы на тое, што Кастрычнікавая рэвалюцыя аддала усю зямлю сялянству, усё-ж яна толькі часткова вырашыла пытаньне аб скарыстоўваньні зьлішка сельскае рабочае сілы.

Колькасьць насельніцтва у акрузе, як і па усёй Беларусі, значна расьце, што, зразумела, павышае сьцісласьць. Калі у 1917 годзе на 1 кв. вярсту прыходзілася 46 чал., то у сучасны момант—звыш 50 чал. Такі зьлішак насельніцтва ня можа быць скарыстаны сельскаю гаспадаркаю, нават пры новых способах апрацоўкі зямлі, пры узмацненьні пасеваў тэхнічных і працаёмкіх культур і інш., і такім чынам утвараюцца кадры беспрацоўных, разрэджаньне якіх можа быць дасягнута разьвіцьцём і пашырэньнем дробнай і рамесьніцка-кустарнай прамысловасьці.

Разам з тым, саматужна-рамесьніцкая прамысловасьць можа і павінна дапоўніць буйную прамысловасьць і ў адносінах выпуска патрэбных сялянству прамысловых тавараў.

У даваенны час саматужна-рамесьніцкая прамысловасьць была значна разьвіта. За час вайны яна заняпала, пры чым лік прадпрыёмстваў і рабочых скараціўся амаль што ў 5 разоў.

Згодна статыстычных ведаў, у 1925 годзе колькасьць розных прадпрыёмстваў складала лічбу 6.560, а лік занятых у іх асоб—8290, агульная вырабатка—25.572.800 руб., што складае 70% усёй прадукцыі прамысловасьці акругі, пры чым у паказаную суму уваходзіць каштоўнасьць збожжа з перапрацоўкай яго на млынах у суме да 18 мільёнаў руб.

За апошні тэрмін лік занятых у саматужнай прамысловасьці асоб узрос на 10%, а валавая прадукцыя на 15%.

Галоўнымі відамі гэтае прамысловасьці зьяўляюцца: вырабвопраткі і туалету, апрацоўка дрэва, харчэуная, апрацоўка мэталяў.

Да апошняга часу саматужнікі ў адносінах снабжэньня сыр'ём і збыта сваіх вырабаў залежылі амаль-што выключна ад прыватніка.

Дзеля таго, каб зьнішчыць эксплёатацыю селяніна і рамесьніка прыватным капіталам і ўвязаць інтарэсы саматужнай прамысловасьці з інтарэсамі разьвіцьця ўсёй народнае гаспадаркі, у верасьні 1925 года быў арганізован акруговы каапэрацыйны саматужна-прамысловы саюз. У момант арганізацыі у склад яго увайшлі 11 арцеляў. На 1-е сьнежня 1925 году саюз аб'яднаў 46 арцеляў, а на 1-е кастрычніка 1926 г. 56 арцеляў.

За 2 гады існаваньня саюзу прыкметны значны узрост каапэраванай саматужнай прамысловасьці акругі. У сучасны момант маецца 70 вытворчых арцеляў з 776 членамі, якія аб'яднаюць амаль што ўсі аснаўныя віды саматужных промыслаў акругі.

Для арганізацыі саматужнікаў-адзіночак і снабжэньня іх сыравінай, крэдытам, збыта іх прадукцыі—у сучасны момант маецца 5 закупачна-збытавых таварыстваў з 345 пайшчыкамі і 4 пазычкова-ашчадных таварыствы з 1492 пайшчыкамі, а з далучэньнем Калінінішчыны прыбавілася яшчэ 6 пазычковых таварыстваў і такім чынам лік іх дайшоў да 10—з 2427 пайшчыкамі.

Узрост арцеляў паказвае наступная таблічка:

| У мінулым годзе | | Зараз | |
|---|---|---|---|
| Арцеляў | Членаў | Арцеляў | Членаў |
| 56 | 554 | 70 | 776 |

Узрост таварыстваў ішоў так:

| | У мінулым годзе | | Зараз | |
|---|---|---|---|---|
| | Лік | Членаў | Лік | Членаў |
| Адшчадныя т-вы | 4 | 1183 | 10 | 2.427 |
| Закупачна-збытавыя | 5 | 337 | 5 | 345 |
| Разам | 9 | 1520 | 15 | 2772 |

Узрост паявога капіталу: супроць 60.082 р. на 1-е кастрычніка 1926 г. ён дасягнуў к 1-му кастрычніка 1927 г. 87.049 руб.

Большасьць нашых арцеляў наступныя: сапожныя, скураныя, кавальскія, дзягцярныя і дрэваапрацоўвачныя; агульная гадавая выработка усіх арцеляў прыблізна вылічваецца ў 1 мільён 200 тысяч рублёў.

За мінулы год звароты саюза па снабжэньню і збыту значна узраслі. Калі зварот саюза за 1925—26 г. складаў 362.674 руб., дык за мінулы год звароты яго павялічыліся да 935.000 рублёў, гэта значыць, амаль-што ў 3 разы.

Дырэктыва аб зьніжэньні цэн таксама выканана Магпрамсаюзам. Агульнае зьніжэньне цэн складае 8½%. Накладныя выдаткі у адносінах к агульнаму звароту таксама зьніжаны: ў мінулым годзе яны складалі 7,23%, зараз 4,2%

---

Вялікія капітальныя затраты, якія з года ў год павялічваюцца, значна аднавілі пераабсталяваньне і сілавыя установкі прадпрыемстваў. Дзякуючы гэтаму павялічыўся выраб прадукцыі і разам з тым панізілася сабекаштоўнасьць, у сярэднім на 10%, што ў сваю чаргу дае магчымасьць лепш здаволіць патрэбы спажыўца-селяніна ў больш дзяшовых і дабраякасных таварах.

У галіне электрафікацыі акругі мы дабіліся таксама значных посьпехаў: па гораду Магілеву магутнасьць электрастанцыі з 200 конскіх сіл павялічана да 630, з абхватам ускраін гораду, якія населены рабочымі; у бягучым годзе вядзецца праца па давядзеньню магутнасьці станцыі да 1000 конскіх сіл з тым, каб атрымаць магчымасьць электрафіцыраваць і прадпрыёмствы мясцовай прамысловасьці. Гэта будзе каштаваць каля 215.000 руб.

У раённых цэнтрах пабудованы 3 электрастанцыі (у Клімавічах, Чавусах і Шклове) агульнай магутнасьцю да 200 конскіх сіл і ў бягучым годзе канчаецца пабудова яшчэ дзьвюх электрастанцый (у Чавусах і Быхаве) па 100 конскіх сіл кожная.

Прамысловасьць акругі адбудована поўнасьцю. У далейшым перад намі стаіць задача плянавага абхвату, плянавае пабудовы прамысловасьці, плянавых дырэктыў у адносіне ўсіх відаў прамысловасьці. Толькі плянавасьць у працы, асьцярожны і строга-плянавы падыход да разьвязваньня усіх пытаньняў будаўніцтва нашае прамысловасьці павядзе нас уперад па шляху да сацыялізму.

---

# Камунальнае будаўніцтва ў акрузе.

Савецкая улада нацыяналізіравала буйную маёмасьць, знахадзіўшуюся раней у руках буржуазіі, значная колькасьць якой зьбегла сумесна с акупацыйнымі вайскамі палякоў і немцаў, пакінуўшы свае маёнткі.

З усіх 3977 уладаньняў у Магілеве было нацыяналізавана 327 найбольш буйных будынкаў.

Знахаджэньне г. Магілева з самага пачатку рэвалюцыі у прыфрантавой паласе і вялікія здарэньні 1917 г., якія адбываліся у Магілеве, як быўшай царскай стаўцы, зрабілі вялікі уплыў на становішча гарадзкой гаспадаркі Магілева. якая к 1921 году аказалась значна разбуранай. К гэтаму моманту 20 процантаў муніцыпалізаваных і безгаспадарчых будынкаў было зруйнавана, 20 процантаў патрабавали вялікага і сярэдняга рамонтаў, астатнія павінны былі даглядацца бягучым рамонтам. Прыватнае-жа будаўніцтва зусім спынілася.

Камунальнае становішча усіх гародоў акругі наогул было вельмі кепскае. Масты, брукаваныя калодзежы патрабавалі рамонту.

Такое становішча гарадзкой гаспадаркі патрабавала вялікіх сродкаў для яе аднаўленьня. Сродкаў-жа было мала, пагэтаму ў 1923—24 г. г. рабіўся рамонт толькі тых будынкаў, якія патрабавалі яго у першую чаргу.

Толькі з 1924 г.. калі ўзмацнілася фінансавае становішча акругі, стала магчыма прыступіць к плянаваму аднаўленьню жыльлёваго фонду.

К гэтаму моманту на дапамогу камгасу, у справе аднаўленьня жыльлёвага фонду, прышла жыльлёвая каапэрацыя, якой была перадана 159 домаўладаньняў, знаходзіўшыся раней у веданьні камгаса. За камгасам засталіся толькі 68 домаўладаньняў.

У сучасны момант сетка жыльлёвай каапэрацыі складаецца з 7 жыльлёва-будаўнічых таварыстваў, з якіх: у Магілеве—5, у Шклове і Быхаве—па аднаму, і 6 жыльлёва арэндных таварыстваў, з якіх: 5 у Магілёве, 1—у Быхаве, а усяго 13 таварыстваў.

Вынікі працы на аднаўленьню жыльлевага фонду наступныя:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Камгасам адбудована | 18 дамоў, | у якіх | 144 кватэры, | усяго плошчай | 1200 | кв. мэтраў |
| Адрамантавана . . . | 30 | „ | 120 | „ | 600 | кв. „ |
| Жыльлёвай каапэрацыяй: | | | | | | |
| адбудована | 5 | „ | 201 | „ | 9803 | „ „ |
| адрамантавана . . | 39 | „ | 119 | „ | 3461 | „ „ |

Жыльлёвая каапэрацыя у новым будаўніцтве аказала значныя посьпэхі. Ёю пабудованы за апошнія 2 гады пасёлак дзеля рабочых у г. Шклове і новыя дамы дзеля рабочых у г Магілеве. Усяго ёю пабудована 20 дамоў, у якіх 40 кватэр, плошчай 2041 кв. мэтр. Жыльлёвая каапэрацыя прыступае да пабудовы рабочага пасёлку у Ветранцы, пры шкляным заводзе «Ільліч».

У сувязі з выданьнем закону аб праве забудоўлі і прадастаўленьнем крэдыту, значна шагнула уперад і прыватнае будаўніцтва. Так, у 1922 годзе выдадзена толькі 20—30 дазволаў на забудоўлю, а ў 1927 г.—220, з якога ліку на 50% ужо пабудаваліся.

Значныя посьпехі маюцца у справе абслугоўваньня насельніцтва камунальнымі паслугамі. У 1926—27 годзе прыступлена к узмацненьню і пера-

абсталяваньню электрастанцыі—з 400 да 600 кілоўат, што дасьць магчымасьць абслугоуваць 75⁰/₀ насельніцтва электрасьвятлом. У 1927 годзе прыступлена к пабудове у г. Магілеве новага вадаправода.

Побач з гэтым, зроблена перамашчэньне вуліц на працягу 10.000 кв. мэтраў, спраўленьне тратувараў на працягу 3.000 мэтраў, а таксама спраўленьне калодзежаў, лесьвіц, мастоў.

Маюцца дасягненьні і ў справе камунальнага абслугоўваньня у раёнах: так, у 1927 годзе пачалі будавацца 2 электрастанцыі у Чавусах і Быхаве, што дасьць магчымасьць разьвіць у гэтых гарадох прамысловасьць і асьвятліць гарады электрасьвятлом.

## Шляхавае будаўніцтва.

На абшары акругі ў сучасны момант знаходзіцца шляхоў акруговай значнасьці 1.021 кілёмэтраў і раённай—816 кілёмэтраў. Значная перагрузка шляхоў ў гады імпэрыялістычнай вайны, амаль-што пры поўнай адсутнасьці тэхнічнага нагляду і рамонту, давяла іх да поўнай разбуранасьці.

Нягледзячы на шэраг цяжкасьцяў, якія мелі месца у першыя гады рэвалюцыі, з 1919 г. робяцца першыя спробы аднаўленьня шляхоў. Прыкладна, арганізоўвалісь суботнікі з прыцягненьнем мясцовага насельніцтва для адрамантаваньня мастоў і частак дарожнага палатна.

У 1919—20 г. г. некаторыя часткі Чырвонай арміі, арганізаваныя у спэцыяльныя вайскова-дарожныя атрады, прарабілі значную працу у справе дарожнага будаўніцтва, у якой ім дапамагалі дарожныя аддзелы пры камітэце дзяржаўных будынін.

З 1924—25 г., калі ўся работа па аднаўленьню разбуранай гаспадаркі пачынае прымаць плянавы характар, на шляхавае будаўніцтва звяртаецца адпаведная увага і пачынаецца рэгулярны водпуск сродкаў для гэтай мэты.

Аб паступовым павялічэньні сродкаў на шляхавае будаўніцтва ў Магілеўскай акрузе гаворыць наступныя табліца:

| | 1924/25 г. | 1925/26 г. | 1926/27 г. |
|---|---|---|---|
| На дарогі акруговай значнасьці . . | 21.000 р. | 78.583 р | 128.731 р. |
| „ раённай „ | 9.000 „ | 42.710 „ | 40.930 „ |
| „ сельскай „ | — | — | 2.600 „ |
| | 40.000 р. | 121.233 р. | 172.261 р. |

На гэтыя сродкі праароблена, галоўным чынам, наступнае:

| | Пабудова мастоў | | Рамонт. мастоў. | | Выкладка бэт. труб. | | Землян. работы. | Замошчан. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | штук | пагонн. мэтр | штук | паг. м. | шт. | паг. м. | кб. мэт. | клм. |
| 1924/25 г. . | 23 | 505 | 13 | 221 | — | — | 2000 | — |
| 1925/26 „ . | 64 | 340 | 9 | 79 | 31 | 310 | 8000 | 1,7 |
| 1926/27 „ . | 79 | 794 | 39 | 324 | 43 | 430 | 31210 | 1,5 |
| Усяго . | 166 | 1639 | 61 | 624 | 74 | 740 | 41210 | 3,2 |

Паступовае павялічэньне сродкаў на шляхавае будаўніцтва спрыяла павялічэньню колькасьці і паляпшэньню будыніны, пры чым з 1925/6 году пачынае ажыцьцяўляцца пераход на капітальнае будаўніцтва, як-та: замена драўляных мастоў малых пралётаў бятоннымі трубамі, замашчэньне некаторых трактаў і г. д.

К 1926/7 году адрамантавана шляхавага палатна на 58 процантаў агульнага працягу і упарадкована мастоў каля 33 процантаў агульнай колькасьці іх.

На бліжэйшыя гады пяцігадовым плянам па шляхаваму будаўніцтву прадугледжана пабудаваць штучных будынін на 100 процантаў і замашчэньня палатна на 40 процантаў. Гэты плян прадугледжвае работы капітальнага характара.

У 1927-28 годзе назначана зрабіць наступнае:

| | | |
|---|---|---|
| замашчэньне палатна | 8,98 | кілёмэтраў |
| гравійнае замацаваньне | 10,3 | „ |
| укладка жалезна-бэтонных труб | 422 | пагонных мэтраў |
| пабудоўка драўляных мастоў | 746½ | паг. м. |
| земляныя работы | 61668 | куб. мэтраў. |

# Гандаль і каапэрацыя.

## Гандаль даўней і гандаль савецкі.

Гандаль у савецкім краі так жа сама адрозьніваецца ад гандлю ў буржуазных краёх, як і улада рабочых і сялян ад улады паноў, банкіраў і фабрыкантаў. Там, у буржуазных краёх, калі што ратуе спажыўца, дык гэта канкурэнцыя фабрыкантаў і гандляроў паміж сабою. Але-ж яны усё больш імкнуцца к яднаньню, каб не перашкаджаць адзін аднаму зьдзіраць скуру з рабочага і селяніна.

Такі-жа самы гандаль быў і ў нас пры царскім ладзе. Гандаль трымалі ў сваіх руках буйныя, дробныя і самыя дробныя гандляры. Толькі ў іх можна было набыць тавары. У буржуазных краёх апэтыты гандляроў трохі зрэзвае каапэрацыя. Але у царскай Расеі урад баяўся нават каапэрацыі. Калі і існавалі у нашай Магілеўскай акрузе каапэратывы, дык іх было вельмі мала, ў іх ядналіся чыноўнікі і афіцэры у горадзе, ды папоўска-кулацкая верхавіна на вёсцы, а працоўнаму селяніну ды рабочаму ад іх ня было ні горача, ні халодна, і наогул роля гэтых каапэратываў была зусім нязначная.

Зусім іншы характар носіць гандаль савецкі. Прамысловасьць, якая выробляе тавары, належыць амаль цалком дзяржаве. А дзяржава наша—савецкая, рабоча-сялянская. Яна адпушчае свае тавары па справядлівай цане, яна ня хоча і ня можа браць лішкавых цэн (напрыклад, калі якіх-небудзь тавараў не хапае). Савецкая улада імкнецца да таго, каб прамысловыя тавары, якія выробляюць рабочыя, непасрэдна папалі селяніну і рабочаму, бяз прыватнага пасярэдніка. І нааварот: каб тое, што прадае селянін, таксама ня ішло праз прыватныя рукі. Адным словам, савецкая улада імкнецца зусім адхіліць прыватнага пасярэдніка, зусім зьнішчыць яго прыбытак, які адбіваецца высокімі цэнамі на тавары.

Такая непасрэдная змычка паміж горадам і вёскаю, паміж прамысловасьцю і сельскаю гаспадаркаю ажыцьцяўляецца праз дзяржаўны гандаль і каапэрацыю. Яна, каапэрацыя, павінна, узмацніўшыся, замясьціць сабою як прыватны, так і дзяржаўны гандаль. Толькі праз каапэрацыю мы павінны усё купляць і праз яе-ж збываць свае прадукты.

Дзяржава ня толькі зазывае насельніцтва яднацца у каапэрацыю і узмацняць яе, але і адпушчае ёй тавары на ільготных умовах, дае крэдыт, падатковыя ільготы.

Разам з тым, садзейнічае таму, каб пашыраўся таваразварот паміж горадам і вёскаю; дзяржава плянуе і рэгулюе гандаль, каб ён ішоў узровень з фінансавымі магчымасьцямі нашай краіны, каб ня было спэкуляцыі, каб былі нармовыя цэны, якія-б адпавядалі інтарэсам як рабочага, так і селяніна.

Чаго мы дасягнулі у гэтых адносінах к дзесяцёхгодзьдзю Кастрычніка? Як ідзе разьвіцьцё нашага гандлю і як наладжвалі мы змычку в вёскай гораду, увязку інтарэсаў рабочага і селяніна?

Час з 1917 году да 1921-га, пэрыяд грамадзянскай бойкі, быў часам, калі рынак амаль-што адсутнічаў. Існавала „разьвёрстка“, і вольныя лішкі сялянскай гаспадаркі ішлі на фронт. Уся краіна напружвала сілы ў барацьбе з абкружаўшым і насядаўшым капіталам і сусьветнай контррэвалюцыяй. Аб вольным разьвіцьці тавараразвароту, магчымым пры мірным будаўніцтве, не магло быць і гутаркі. Быў толькі такі гандаль, які правадзіўся шляхам патайнага абмена прадуктаў сельскай гаспадаркі, здабываньня прадактаў шляхам мяшочніцтва.

Узнаўленьне гандлю пачынаецца ледзь з 1921 году, пасьля ліквідацыіі франтоў, з пераходам Савецкай улады к мірнаму гаспадарчаму будаўніцтву. Наступае пэрыяд таварaабмену, які вытвараўся на збожжа, паколькі загатоўка яго была патрэбна уладзе для харчаваньня насельніцтва няўраджайных мясцовасьцяў—.Паваложжа і Украіны. Менавой адзінкай таго часу зьяўляўся пуд жыта. Таварaабмен праводзіўся галоўным чынам праз каапэрацыю, якая для гэтай мэты здавальнялась праз харчовыя органы прамысловымі таварамі на умовах здачы апошнім належнай колькасьці збожжа.

Разам з тым было дазвалено сялянству прадаваць на рынку лішкі сваёй гаспадаркі, што павяло за сабой і узнаўленьне прыватнага рынку.

У далейшым, з увядзеньням у зварот з 23 году цьвёрдай валюты (чырвонцы), гандаль уваходзіць у належнае рэчышча, паступова пачынае разьв вацца.

Наколькі вяліка было ў той час імкненьне прыватнага капіталу да гандлю, відна з таго, што толькі па аднаму г. Магілеву ў 1921 годзе было выбрана гандлёвых патэнтаў 550, а ў 22 годзе ужо 722.

Аднак, далейшае узмацненьне дзяржаўнага гандлю і асаблівая увага, якая удзялялась Савецкай уладай каапэрацыі, а таксама і здаровая канкурэнцыя нашага грамадзянскага гандлю з прыватнікам, павялічэньне моцы каапэрацыі прывяло к таму, што к 10-й гадавіне мы адзначаем значныя посьпехі, да якіх дасягнуў дзяржаўны і каапэрацыйны гандаль, і якія даюць ім рашучую перавагу над прыватным. Ніжэйзьмешчаныя даныя, хоць-бы па аднаму Магілеву, аб руху гандлёвай сеці кажуць аб гэтым.

| Выбрана патэнтаў: | 1922 г. | 1927 г. |
|---|---|---|
| Дзяржаўн. прадпрыемств. . | 13 | 45 |
| Каапэрацыйнымі „ . | 31 | 86 |
| Прыватнымі „ . | 722 | 717 |

Мы бачым дужы узрост дзяржаўнага і каапэрацыйнага гандлю і, наадварот, зьмяншэньне прыватнага.

У 1923 годзе у нас быў пакладзены пачатак плянаваньню і рэгуляваньню гандлю. Будуецца пры Магілеускім павятовым выканкаме камісія па зьніжэньню цэн, у задачу якой уваходзіць пэрыядычнае застанаўленьне цьвёрдых цэн. Камісіі былі арганізацыі нясталыя.

У 1925 годзе пры Магілеўскім акрвыканкоме арганізованы быў сталы орган—камісія па ўнутранаму гандлю. Яе абавязак—зірка сачыць, ці не пагражае што-небудзь з боку прыватнага капіталу наладжваемай змычцы. Каміся рэгулявала хлебазагатоўкі з загатоўкамі усіх відаў сыравіны, патрэбных для нашай прамысловасьці, вытварала здаровыя узаёмаадносіны загатавіцеляў з салянствам, старалась складаць

нармовыя цэны на сыравіну і збожжа, прыемныя для рабочага і выгадныя для селяніна. Камісія дабілась, штоб цэны на збожжа ў восень, калі бядняк селянін прадае яго, былі для яго выгадны і не разыходзіліся з вясеньнімі, калі бядняк купляе хлеб, а прадае багаты. Камісія сачыць, каб разгортваўся тавараздварот, каб забясьпечваліс патрэбы працоўных масаў у прадметах шырокага спажываньня. Адначасова, яна назірае, каб усё большая частка тавараў ішла да спажыўца праз каапэрацыю (і дзяржаўны гандаль), каб прыватны гандляр выціскаўся з рынку.

Нашы посьпехі на гэтым вучастку, нашы дасягненьні паказваюць наступныя лічбы:

| Гады | Гадавы зварот | У тым ліку Дзяржгандль | Каапэрацыя | Прыватны гандаль |
|---|---|---|---|---|
| 1924—25 г. . . | 19.752.000 | 3.566.000 | 7.405.000 | 8.781.000 |
| | 100% | 18,4% | 37,5% | 44,46% |
| 1925—26 г. . . | 24.466.000 | 3.988.000 | 10.213.000 | 10.265.000 |
| | 100% | 16,3% | 41,7% | 42,00% |
| 1926—27 г. . . | 31.320.000 | 4.342.000 | 15.435.000 | 11.544.000 |
| | 100% | 13,9% | 49,3% | 36,8% |

Гэтыя л;чбы паказваюць, што за два гады тавараздварот павялічыўся на $68^{1}/_{2}$ %: з $19^{3}/_{4}$ міл. да 31 мільёна з лішкам. Разам з тым, мы дабіл ся таго, што усё вялікшая частка тавараў ідзе праз каапэрацыю і усё меншая праз прыватнага гандляра. Калі ў 1924—25 годзе прыватны гандаль перавышаў каапэрацыйны, дык у наступным годзе каапэрацыя ужо прадавала столькі-ж, колькі і прыватнік. Яшчэ год—і ў 1926-27 годзе каапэрацыя ўжо прадавала каля палавіны усіх тавараў, далёка перагнаўшы прыватніка.

Посьпехі нашы вялікія, але трэба ісьці яшчэ далей. З паказаных лічбаў тавараздвароту відаць, што прыватнік, хоць у процантных адносінах усё больш застаецца адзаду, але сума праходзячых праз яго тавараў усе-ж расьце. Наша задача—дабіцца, каб і ў гэтых адносінах прыватнік ішоў ня ўперад, а назад.

---

# Спажывецкая каапэрацыя.

У дарэвалюцыйны час спажывецкая каапэрацыя была вельмі слаба пашырана і ня мела колькі-небудзь вялікага значэньня ў мясцовым жыцьці. Бядняк ня меў ад яе карысьці.

Выцясьненьне прыватнага гандлю каапэрацыяй паступова з кожным годам павялічваецца.

Сетка спажывецкай каапэрацыі у параўнаньні з даваенный значна ўзрасла. У сучасны момант маецца 285 спажывецкіх крам з лікам пайнікаў 96,026 чал., гэта значыць што ўсяго каапэравана 52%, у ты час, як у 1915 годзе ў акрузе было толькі 20 каапэратываў, а ў 1917 г.—73.

У гарадзкую каапэрацыю уцягнута 80% членаў прафсаюзаў.

Зараз мы маем такую сетку каапэратываў, якая зусім здавальняе насельніцтва, і якіх-небудзь у ёй значных перамен непатрэбна.

Сялянскай беднаце забясьпечваецца поўная магчымасьць прымаць удзел у каапэрацыі. Ёй даецца права унасіць пай у рассрочку, а ў выключных выпадках лічыцца пайшчыкамі і зусім бяз пая, з адным уступным узносам. Акрамя таго, у 1925 годзе складзен у вакрузе спецыяльны фонд каапэраваньня бядноты, які штогодна павялічваецца дзесяціпроцантнымі адлічэньнямі з чыстага прыбытку каапэратываў і іх саюзу. Лік каапэраваных гаспадароў-беднякоў складае 3844 ч. *), з якіх каапэравана за кошт фонду 2056 чалавек.

Гандлёвыя звароты ў параўнаньні з 1924 г. па саюзу павялічыліся утрое, па ЦРК-у 4 разы, а па вясковай сетцы—болі чым у шэсьць разоў. Сярэдняя месячная продажа па вёсцы давала у 24 годзе каля 1100 р. на вобчаства, а на краму каля 500 р., а у 27 годзе дае на вобчаства 7125 р. і на краму 2200 р.

Кожны селянскі двор купляў у сёлетнім годзе тавараў у каапэрацыі толькі на чатыры рублі ў месяц (на аднаго пайшчыка прыпадае ў сярэднім у месяц 6 р.), чым далёка ня вычэрпваецца пакупацельная здольнасьць нашага сялянства. Па рабочай сетцы на пайшчыка прыпадае 53 рублі ў месяц

Ніжэй зьмешчаная табліца паказвае узрост зваротаў каапэрацыі па гадох (у круглых лічбах):

| | Саюзн. арган. | ЦРК | Вяск. сетка |
|---|---|---|---|
| | У тысячах рублёў. | | |
| 1922 г. . . : . . . . . | 175 | | |
| 1923 г. . . , . . . . . | 180 | 410 | 86 |
| 1924 г. (9 мес.) . . . . | 525 | 1036 | 421 |
| 1924/25 г. . . . . . . | 1644 | 2352 | 2573 |
| 1925/26 г. . . . . . . | 2430 | 3481 | 3892 |
| 1926/27 г. (3 кв.) . . . | 1799 | 3514 | 3334 |

Прынцып найболшага зьдзешаўленьня тавараў для спажыўца заўсёды стаяў на сьцягу каапэрацыі. Барацьба за якасьць і падзешаўленьне асабліва ўзмацнілаеь за апошнія два гады, у сувязі з кампаніяй рэжыму эканоміі і зьніжэньня цэн. Вынікам зьяўляецца зьніжэньне накідак на тавары: па саюзу з 7,6% у 25/26 годзе да 4,50% у сёлетнім годзе, па ЦРК з 13,81% у 25/26 г. да 11,8% у 26/27 годзе, а па вясковай сетцы з 14,84% да 10,62% за тэйжа час.

Раўналежна з гэтым замячаецца скарачэньне гандлева-арганізацыйных выдаткаў: па саюзу з 10,93% к звароту 1924 года да 4,41% у сёлетнім годзе, па ЦРК з 11,1% у 24 г. да 9,4% у 26/27 г. і па вясковай сетцы з 10-15% у 24 г. да 9,41% у сёлетнім годзе.

Патрабаваньне ураду аб 10%-ным зьніжэньні цэн на прадметы шырокага ужываньня з 1 студзеня па 1 чэрвеня 27 года, выканана па ЦРК ў сярэднім на 9,8%, а па вясковай сетцы 9,12%.

Паказчыкам фінансавага аздараўленьня і моцнасьці каапэрацыі вакругі служа узрост як усіх яе сродкаў, так і уласных, у тым ліку і паявых, што відаць з ніжэйзьмешчаных лічбаў:

---

*) Тута і далей даюцца лічбы па старой Магілеўшчыне (без Калінінщчыны).

| | | Усяго балянсавых сродкаў. | З іх уласных сродкаў | З ліку уласных— паявого капіталу. |
|---|---|---|---|---|
| | | | У тысячах рублёў. | |
| Союз | 1924 г. . . . . | 247 | 61 | 0,8 |
| | 1927 г. . . . . | 729 | 106 | 8 |
| ЦРК | 1924 г. . . . . | 225 | 45 | 7 |
| | 1927 г. . . . . | 967 | 226 | 42 |
| Вясковая сетка. | 1924 г. . . . . | 219 | 44 | 9 |
| | 1927 г. . . . . | 573 | 229 | 79 |

Гэткім чынам бачым, што уласныя сродкі союзу узраслі амаль што удвая, па ЦРК уласныя сродкі у пяць разоў, а паявы капітал у шэсьць разоў і па вясковай сетцы уласныя сродкі у пяць разоў і паявы капітал у восем разоў. Гэтыя некалькі лічбаў яскрава гавораць аб значным узросту і узмацненьні нашай спажывкаапэрацыі.

Але на зробленым ня трэба супакойвайцца, а ісьці да далейшага павялічэньня уласных капіталаў (і прыцягненьня новых пайшчыкаў).

Аб далейшых задачах і шляхох каапэрацыі скажам словамі пастановы юбілейнай сэсіі центральнага выканаўчага камітэту СССР (якая адбылася у Ленінградзе напярэдадні дзесяцёхгодзьдзя Кастрычніка):

«**Посьпехі, дасягнутыя дзяржаўнымі і каапэрацыйнымі арганізацыямі у галіне гандлю, узрост набываньня ў гэтых арганізацыях ужо ў цяперашні час даюць ім рашучую перавагу над прыватным капіталам. Разам з гэтым тыя посьпехі складаюць прадпасылкі для поўнага абхвату гандлю дзяржаўнымі і кааперацыйнымі арганізацыямі і пераходу к прамой змычцы сацыялістычнай прамысловасьці з сялянскай гаспадаркай праз гэтыя арганізацыі. Гэты пераход павінен быць забясьпечаны у першую чаргу якасным палепшаньнем і рацыяналізацыяй усяго дзяржаўнага і каапэрацыйнага гандлёвага апарату. Барацьба за зьніжэньне розьнічных цэн павінна працягвацца з неаслабнай упартасьцю**».

І нашай акрузе, як і усяму савецкаму Саюзу, трэба імкнуцца усё больш і больш замяшчаць прыватніка каапэрацыяй. Імкнуцца да стопроцантнага каапэраваньня сялянскіх двароў, у першую чаргу уцягнуць у пайшчыі беднату. Трэба павялічваць і ўласныя сродкі каапэрацыі. Каб замацаваць праведзенае зьніжэньне цэн і стварыць грунт для далейшага іх зьніжэньня, неабходна рашуча дамагацца скарачэньня каапэратывамі гандлева-арганізацыйных выдаткаў.

# Народная асьвета.

**Старыя школы** і **савецкая сыстэма народнае асьветы.** У даваенныя часы школа абслугоўвала пануючую клясу—буржуазію. Дзеці сялян і рабочых маглі вучыцца толькі у пачатковых і вышэйшых пачатковых школах; гімназыі, рэальныя вучылішчы, унівэрсытэты и другія вышэйшыя навучальныя установы былі зачынены для працоўных, бо для вучэньня ў іх трэба было выдаткоўваць шмат грошай.

Але і пачатковых школ было мало, яны не маглі абхапіць усю масу дзяцей школьнага ўзросту; так, у 1913—1914 г. па быўшай Магілеўскай губэрні было абхоплена школай дзяцей школьнага узросту (ад 8-11 гадоў) толькі 31 процант.

Кастрычнік зрабіў грунтоўную рэвалюцыю—школа стала Савецкай, адзінай, працоўнай, пазаклясавай і сьвецкай.

Усім працоўным быў адчынены шырокі доступ у сярэднія і вышэйшыя установы. Абучэньне ва усіх вучэбных установах было аб'яўлена бясплатным.

Таксама было зломлена і нацыянальнае прыгнечаньне школай: кожная нацыянальнасьць атрымала права вучыць дзяцей на матчынай мове.

Кастрычнікавая рэвалюцыя дала шырокі прастор разьвіцьцю дашкольнае асьветы і парадзіла новы від вучэбных устаноў—гэта паліт-асьветныя установы, якія маюць сваёй мэтай пашырэньне і паглыбленьне палітычнае сьвядомасьці дарослага насельніцтва.

Пачынаючы з 1919—20 навуч. года (у 1918 г. была нямецкая акупацыя Магілеўшчыны, школы заставаліся старыя) пачынаецца буйны рост школьнае сеткі. Адчыняюцца новыя пачатковыя школы амаль-што у кожнай вёсцы.

Па валасных цэнтрах, у мястэчках і сёлах адчыняюцца 11 ступені а ў павятовых і губэрскіх цэнтрах нават вышэйшыя ўстановы. Так, у Магілеве настаўніцкі інстытут быў праабразован у вышэйшую установу-„Институт Народного Образования".

Трэба адзначыць, што гэты рост сеткі школ пачатковых, школ 11 пені і вышэйшых устаноў як у нас, так і па ўсяму Саюзу, ня меў пад сабой грунту, ня меў матар'ялнай базы; ён тлумачыцца тым стыхійным імкненьнем мас да асьветы, якой яны былі пазбаўлены палітыкай царскага ураду.

І вось з 1922—23 навучальнага году пад сетку школ пачынае падводзіцца матар'яльная база: адбываецца рэарганізацыя школьнае сеткі, якая на перщых парах скарачаецца; настаўнікам вызначаецца цьвёрдая пэнсія; школьныя памяшканьні пачыняюць рамантавацца, пад школы адводзяцца панскія і папоўскія будынкі, за школамі замацоўваюцца зямельныя вучасткі, і школа з матар'яльнага бок у з кожным годам мацнее.

З 1924—25 году, калі Магілеўшчына была далучана да Беларусі, школы паступова пераводзяцца на беларускую мову і к 1927—28 году ужо ўсі школы і ва ўсіх групах перайшлі на беларускую мову.

Наступная табліца паказвае зьмены у школьнай сетцы і процант абхопу дзяцей школай ва ўзросьце ад 8 да 11 гадоў у межах Магілеўскай акругі (без Калінішчыны, па якой веды дадзены на сёлетні навучальны год).

| Гады | Пачатковыя школы | | Сямігодкі і школы роўныя ім | |
|---|---|---|---|---|
| | Лік школьных камплектаў | % абхопу дзяцей школай | Лік школ | Лік вучняў |
| 1913—14 . . . . | 611 | 31 | 16 | 4823 |
| 1916—17 . . . . | 623 | 38 | 18 | 5095 |
| 1919—20 . . . . | 1254 | 51 | 43 | 10235 |
| 1927—28 . . . . . | 825 | 61 | 20 | 8125 |
| Па Калінішчыне (1927 28) . . . . . | 522 | 68 | 13 | 4217 |

Як бачым з табліцы, лік школ і вучняў к сёлетняму году значна перарос даваенны ўзровень. У сёлетнім навучальным годзе па няўзбуйненай Магілеўшчыне навучаецца у пачатковых школах 49878 дзяцей і 32.126 дзяцей—па далучанай Калінішчыне, што скадае 61—68 процантаў ад усіх дзяцей ва ўзросьце 8—11 гадоў (супроць 31 проценту у даваенны час). На 1000 душ насельніцтва прыходзіцца 95 вучняў.

Сетка пачатковых школ па вакрузе ўжо досыць густая: у сярэднім школьны радыус роўны 3 вярстам.

**Плян усеагульнага навучаньня.** З 1925—26 году на працягу 10 гадоў зьдзейсьніваецца плян ўсеагульнага навучаньня.

Згодна пляну, за 10 гадоў будзе адчынена 1453 школьных камплекты.

А на працягу 16 гадаў павінна быць пабудавана 835 школьных будынкаў для 1670 камплектаў, на што па пляну будзе затрачана 5 мільёнаў і 10 тысяч рублёў.

Па гадох лік камплектаў будзе павялічвацца так, як паказана на дыяграме (глядзі наступную старонку).

Плянавая пабудова школьных памяшканьняў вызначаецца так.

| 25—26 г. | 26—27 г. | 27—28 г. | 28—29 г. | 29—30 г. | 30—31 г. | 31—32 г. | 32—33 г. | 33—34 г. | 34—35 г. | 35—36 г. | 36—37 г. | 37—38 г. | 38—39 г. | 39—40 г. | 40—41 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 33 | 57 | 85 | 97 | 103 | 101 | 98 | 98 | 97 | 125 | 137 | 135 | 138 | 133 | 130 | 120 |

## Плян увядзеньня ўсеагульнага навучаньня.




*Плян будзе ажыцьцяўлёны к 1934—5 навучальнаму году. Слупікі паказваць, колькі ў якім годзе будзе адчынена новых школьных камплектаў.*

На пабудову аднаго будынку прызначаецца 6 тысяч рублёў. Фактычна сума, страчаная на пабудову 835 будынкаў, будзе амаль-што удвая большая, бо каштоўнасьць будынку даходзіць да 10-12 тысяч рублёў.

Неабходна адзначыць, што адчыненьне новых камплектаў ідзе згодна пляну усеагульнага навучаньня, а ў пабудове школ ёсьць адступленьні у бок зьмяншэньня выдаткаў, у параўнаньні з вызначанымі па пляну. За апошнія 2 гады пабудована: 10 будынкаў, у 1925—26 годзе і 13—у 1926—27 г. і на наступны 1927—28 г. вызначана сума у 226.900 руб., па 10 тысяч руб. на адзін будынак.

**Дашкольныя установы**. Дашкольнае выхаваньне, можна сказаць, бярэ пачатак на Магілеўшчыне з Кастрычнікавай рэвалюцыі, бо да рэвалюцыі на Магілеўшчыне быў толькі адзін дзіцячы сад у гор. Магілеве на 25 дзяцей.

У 1919—20 навучальным годзе у межах старае Магілеўскае акругі было ужо 42 сады дзіцячых з лікам дзяцей у іх 1682. Сады таксама, як і школы, потым пачалі зачыняцца і к 1924—25 году засталося толькі 3 сады з 110 дзяцьмі ў гор. Магілеве. З таго часу сады пачынаюць узноў адчыняцца, маючы пад сабой матар'ялную базу і больш кваліфікаваных працаўнікоў. Зараз мы маем 8 дзіцячых садоў у межах старой Магілеўшчыны і 2 сады у Калінішчыне, з лікам дзяцей у іх 472 чалавекі.

Нулявыя групы, як групы дашкольныя (скарочаны дзіцячы сад), існуюць толькі трэці год; да 1925—26 году нулявыя групы па назве былі, але гета былі звычайныя першыя групы, бо праца ў іх вялася мэтадам школьным. Усяго нулявых груп (у гор. Магілеве) маецца 4 з 115 дзяцьмі ў іх.

Пляцоўкі, як дашкольныя ўстановы, таксама існуюць толькі трэці год. Дзяржаўных пляцовак усе тры гады было па 14. У гэтым годзе саюзы на свое сродкі адчынілі 10 пляцовак. Усяго дзяцей было ахвачана пляцоукамі сёлетнім летам па Магілеушчыне 1417 чал. на 29 пляцоўках. Пляцоукі, як і дзіцячыя сады, ужо адыгрываюць значную ролю у аслабаненьні матак-працаўніц ад дагляду за дзяцьмі і маюць таксама важнае выхаваўчае значэньне.

**Сетка дзіцячых дамоў і камун.** На гэты час у акрузе існуюць 8 дзіцячых дамоў з 340 дзяцьмі і 6 дзіцячых камун з 271 дзяцёнкам.

Лік дзіцячых дамоў і дзіцячых камун быў найбольшы у 1921—23 г., пасьля голоду ў Паваложжы. Рост гэтых установ вызваны быў выключна імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайной, а таксама голадам. Практыка паказала, што выхаваньне ў дзіцячых дамох не дасягае мэты, і з 1924 году дзіцячыя дамы пачалі рэарганізоўвацца у дзіцячыя працоўныя камуны, дзе дзеці выхоўваюцца ў абставінах працоўнага калектыву і выпушчаюцца ў жыцьцё з практычнымі ведамі ці па сельскай гаспадарцы ці па рамёствах, бо пры камунах адчынены і працуюць майстэрні—сьлясарныя, сталярныя, абутныя і іншыя.

Такім чынам, барацьба з дзіцячай бяспрытульнасьцю вылілася ў сталыя жыцьцёвыя формы. Трэба адзначыць, што лік існуючых установ па барацьбе з дзіцячай бяспрытульнасьцю яшчэ ня можа абслужыць усіх бяспрытульных дзяцей, якія ў сучасны момант высоўваюцца жыцьцём (сіроты, пакінутыя бацькамі і беднато).

**Прафтэхасьвета.** Прафтэхасьветныя установы да рэвалюцыйнага часу мелі на мэце вузкую спэцыяльнасьць і ня мелі ніякае ўвязкі з агульнай сыстэмай асьветы. Скончыўшы ніжэйшую прафтэхасьветную установу, напрыклад, прафтэхмайстэрню, альбо рамесьнічае вучылішча заставаўся майстром, альбо рамесьнікам-саматужнікам і падвысіць сваю асьвету ня меў ніякай магчымасьці, бо прамога пераходу ў вышэйшую прафасьветную установу ня было. Рэвалюцыя зламіла засекі і па прафтэхасьвеце, як па сацвыху: зроблены свабодны пераход ад ніжэйшай прафтэхасьветнай установы да вышэйшай. К часу рэвалюцыі па Магілеўскай губ. існавалі: 1) духоўная сэмінарыя, 2) настаўніцкі інстытут, 3) фельчарская школа, 4) камерчаскае вучылішча, рамесьнічае вучылішча і 6) школа садоўніцтва. У сучасны момант мы маем па Магілеўшчыне: 4 тэхнікумы—пэдагагічны, каморніцкі, мэдыцынскі, фармацэўтычны і 2-хгадовыя настаўніцкія курсы, 7 прафшкол і 3 прафмайстэрні з агульным лікам вучняў у 1638 чалавек.

Прафтэхмастйэрні даюць кваліфікаваную сілу ніжэшай кваліфікацыі, патрэбную для сельскай гаспадаркі, прафшколы падрыхтоўваюць кваліфікаваных рабочых для індустрыі, а тэхнікумы—тэхнікаў-спэцыялістых: настаўнікаў, каморнікаў акушэрак, фармацэўтаў. Пры чым, скончыўшых прафтэхмайстэрню мае магчымасьць паступова перайсьці ў вышэйшы навучальныя ўстановы.

Сучасная сыстэма прафтэхасьветы дае мажлівасьць, пачынаючы з прафшколы, паступова пераходзіць да вышэйшай навучальнай установы, гэта значыць што сялянін і рабочы мае мажлівасьць атрымоўваць вышэйшую спэцыяльную асьвету.

**Школы сялянскай моладзі.** Школы сялянскай моладзі маюць сваёй мэтай падрыхтоўку селяніна-гаспадара, які-бы мог, ведаючы добра агранамію, паляпшаць сваю гаспадарку. Школ сялянскай моладзі маецца тры—Бялыніцкая, Княжыцкая і Халоблінская. У будучым маецца на увазе пашырэньне сеткі школ сялянскай моладзі за кошт другіх канцэнтраў (трох вышэйшых клясаў) сямігодак па раёнах.

Разам з гэтым, савецкай уладай прыняты меры для распаўсюджваньня агранамічных ведаў сярод дарослага сялянства шляхам адчыненьня сельскагаспадарчых школ для дарослых сялян. Такая школа працуе ўжо 3-ці год у Чавускім раёне. Тып школ, якія маюць непасрэдны уплыў на працуючых на сваёй гаспадарцы сялян, у будучым намечаны к пашырэньню.

**Матар'яльная база народнае асьветы.** Пачынаючы з 1924-25 навучальнага году стала расьце водпуск сродкаў на народную асьвету. Так, у 1924—25 г. было адпушчана 595 тысяч р., ці 33,7% акруговага бюджэту, а ў 1926—27 г. ужо асыгнавана 2 мільёны 274 тысячы руб. (без Калініншчыны), ці у 4 разы больш, чым у 1924—25 г., а разам з Калініншчынай асыгнаваньні на нарасьвету у гэтым бюджэтным годзе складалі 4.244.000 р. Калі мы параўнаем выдаткі на нарсьвету па акрузе з выдаткамі па б. Магілеўскай губэрні, тэрыторыя якой была вялікшай ад сучаснае акругі больш, чым у два разы, то ў 1915 г. на нарсьвету па губерні на міністэрскія і царкоўна-прыходзкія школы было адпушчана толькі 1 мільён 708 тысяч р., у два разы менш, чым сёлетні акруговы каштарыс на нарасьвету.

**Настаўніцтва**. Па адукацыі настаўнікі вясковых школ (бяз г. Магілева) дзеляцца наступным чынам:

1) З ніжэйшай і дамашняй асьветай . . . . 32%
2) З сярэдняй агульнай асьветай . . . . . . . 38%
3) З спэцыяльнай пэдагагічнай асьветай . 14,5%
4) Скончыўшых пэдтэхнікум . . . . . . . . . 10,2%
5) Скончыўшых 2-ю ступень і агульна-адук. курсы . . . . . . . . . . . . . . . . 5,3%

Па сацыяльн. пахаджэньню настаўнікі вясков. школ падзяляюцца:

1) З сялян . . . . . . . . . . . . . . . . . 71%
2) З духоўных . . . . . . . . . . . . . . . 13%
3) Іншых . . . . . . . . . . . . . . . . . 16%

Такім чынам, па адукацыі склад вясковага настаўніцтва акругі ня зусім здавальняючы—шмат настаўнікаў з ніжайшай асьветай і без спэцыяльнай пэдагагічнай асьветы.

**Мэтадычна-арганізацыйная праца.** Схэма мэтадычнае працы ў вакрузе наступная. Акруговае мэтадычнае бюро непасрэдна кіруе гарадзкімі і раённымі мэтадычнымі бюро. Раённыя мэтадычныя бюро працуюць па дырэктывам акруговага бюро і, у сваю чаргу, кіруюць працай настаўніцкіх гурткоў і працай апорных школ.

З леташняга году па раёнах выдзелена па 2—3 апорных школы, вакол якіх гуртавалася раённае настаўніцтва у сваёй мэтадычнай працы. У гэтым годзе лік апорных школ павялічыцца у два разы, вакол якіх настаўніцтва будзець праводзіць сваю падрыхтоўку і перападрыхтоўку—мэтадычную і агульную.

Вялікім дасягненьнем савецкае школы трэба лічыць правядзеньне у жыцьцё школы прынцыпа комплекснасьці, якая грунтуецца на вывученьні прыроды, працы і грамады. Схалястыка канчаткова выкінута з школы, а вывучаецца акаляючае жыцьцё, дзіцёнак падводзіцца да разуменьня гэтага складанага акаляючага асяродку праз назіраньні, досьлед, экскурсыі і вопыты.

Як зусім новае зьявішча у школах, трэба адзначыць працу па будаўніцтву школьнага жыцьця. Кастрычнік выкінуў лёзунг перад школьнікамі „Будзь удзельнікам у арганізацыі жыцьця свайго калектыву“.

**Вырашэньне нацыянальнага пытаньня ў школах.** Нацыянальнае пытаньне ў школьнай справе Кастрычнікавай рэвалюцыяй вырашана ў тым напрамку, што кожная нацыянальнасьць мае права навучаць дзяцей на матчынай мове, чаго няма у буржуазных краёх.

Апрача беларускіх асьветных установаў, для абслугоўваньня нацыянальнага меншасьцяў утвораны асобныя установы.

| | Школ. | Вячэрн. школ. | Лікпунктаў. | Дзіцячых садоў і дамоў. | Камун. | Пляцовак. | Хат-чытал. | Бібліятэк. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Яўрэйскіх . . | 37 | 4 | 2 | 4 | 1 | 2 | 3 | 1 |
| Польскіх . . . | 16 | — | — | 1 | — | 1 | 2 | — |
| Латыскіх . . . | 4 | — | — | — | — | — | 1 | — |

Маецца яшчэ адна літоўская школа.

**Палітасьветныя установы.** Палітасьветныя установы пачалі сваё існаваньне з часу Кастрычнікавай рэвалюцыі. У першыя гады рэвалюцыі палітасьветныя установы яшчэ ня мелі сталых форм і існавалі як лікпункты, якія былі у кожнай вёсцы, дзе была школа; як тэатры, якіх можна назваць і клюбамі, і нардамамі, і хатамі-чытальнямі, бо яны выпаўнялі функцыі усіх памянёных устаноў. Пачынаючы з 1923—24 году, палітасьветныя установы пачалі афармляцца і пад іх была падведзена матар'яльная база, яны замацаваліся і з кожным годам пашыраюцца. Палітасьветныя ўстановы маюць сваёй мэтай даваць палітычную асьвету дарасламу жыхарству—рабочым і сялянам розных нацыянальнасьцяў. Наступная сетка палітасьвет устаноў паказвае іх разьвіцьцё з 1924—25 году.

| Гады. | Б бліят. | Хаты-чыт. | Лікпункты. | Пардамы. | Вяч. шк. сял. моладзі. | Школы малапісьм. | Клюбы. | Вяч. шк. пав. тыпу. | Вяч. шк. раб. моладзі. | Дамы селяніна. | Кінопераоўкі. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1924/25 . . . | 12 | 31 | 10 | 10 | — | — | 4 | 1 | 3 | 1 | 4 |
| 1925/27 . . . | 6 | 33 | 13 | 8 | 10 | — | 6 | 1 | 3 | 1 | 5 |
| 1926/27 . . . | 5 | 35 | 60 | 8 | 10 | 22 | 5 | 2 | 3 | 1 | 6 |
| 1927/28 . . . | 5 | 41 | 78 | 9 | 20 | 30 | 6 | 2 | 5 | 1 | 6 |
| Па Калінішчыне (1927—28 г.) . | 1 | 24 | 61 | 6 | 13 | 7 | 1 | — | 4 | 1 | 2 |

Прыведзеная сетка сьведчыць аб тым, што разам з пашырэньням хат-чытален, вячэрніх школ, лікпунктаў, таксама пашыраецца справа кінофікацыі вёскі праз кіно-вандроўкі, што зьяўляецца лепшай формай палітасьветпрацы і прапаганды ідэй сацыялістычнага будаўніцтва.

---

З усяго вышэй сказанага мы відзім, што справа народнае асьветы пасля Кастрычнікавай рэвалюцыі з кожным годам усё паляпшаецца. Працоўныя масы—рабочыя і сяляне—маюць махжівасьць вучыцца ва ўсіх вучэбных установах, пачынаючы з ніжэйшых і канчаючы вышэйшымі. Асьвета падымае культуру працоўных мас усіх нацыяў, які насяляюць нашу акругу, і паступова вядзе іх да сацыялізму.

Галоўнымі чарговымі задачамі, якія стаяць зараз перад акруговым кіраўніцтвам акруговае асьветы, зьяўляецца: 1) выкананьне усеагульнага пляну навучаньня, 2) канчатковае зьнішчэньне няпісьменнасьці, 3) нармальнае абслугоўваньне нацыянальных меншасьцяў асьветнымі установамі.

---

# Ахова здароўя.

**Старая, земская мэдыцына толькі лячыла.** Толькі з часу Кастрычнікавае рэвалюцыі мэдыцына пачала ахоўваць здароўе насельніцтва. Царская Расея ня ведала аховы народнага здароўя. Тагочасная земская мэдыцына толькі лячыла, аказвала дапамогу ужо захварэўшым, правядзеньнем папярэджваючых, аздаравіцельных мерапрыемстваў яна не займалася.

Побач з земскай мэдыцынай, былі па гарадох і мястэчках вольнапрацуючыя дактары, якія лячылі заможныя станы насельніцтва.

Да рэвалюцыі (у 1915 годзе) у межах нашай цяперашняй акругі (на 915 тысяч насельніцтва) быў такі лік лекавых устаноў і мэдыцынскага пэрсаналю.

У Магілеве існавалі 3 больніцы з 425 ложкамі (койкамі), доктароў у іх было 9 і 7 фэльчароў

Па сельскіх мясцовасьцях—15 больніц з 279 ложкамі. Акрамя таго, было 6 доктарскіх і 45 фэльчарскіх пунктаў. Агульны лік дактароў—20, фэльчароў—60.

Адзін ложак прыходзіўся на 3300 чалавек і адзін доктар—на 45 тысяч чалавек. Такая лекавая сетка, зразумела, была зусім нездавальняючая, асабліва калі мець на увазе, што у большасьці вёску лячыў ня доктар, а фельчар, пры гэтым, і месцы доктароў не заусёды былі запоўнены. Іншых якія-небудзь мэдыка-санітарных устаноў ня было. Аптэчная справа знаходзілася у руках прыватных асоб.

На утрыманьне ўсёй сеткі выдаткоўвалася каля 419 тысяч рублеў.

Між тым, санітарнае становішча вёсак было вельмі дрэннае. У 1914 годзе эпідэмічныя захвараваньні (пошасьці, масавыя заразьлівыя хваробы) складалі 200 чалавек на кожную тысячу душ насельніцтва. Прычыны гэтага: 1) у вёсцы не аддзяляюць хворых ад здаровых; 2) мяшканьні скучаны і утрымоўваюцца брудна; 3) няма выграбоў і адхожых месц; 4) вёска ужывае дрэнную ваду; 5) наогул—нізкі культурны стан вёскі.

**З Кастрычніка—мэдыцына стаіць на іншым шляху.** З рэвалюцыі мэдыцына становіцца на іншы шлях. З земскай—мэдыцына становіцца грамадзкай. Высоўваецца лёзунг—«Здароўе працоўных ёсьць справа саміх працоўных».

Мэдыцына робіцца ня толькі лекавай, але і папярэджваючай, яна імкнецца папярэджваць хваробы.

Савецкія дактары вядуць, побач з лячэньнем, вялікую працу па растлумачэньню насельніцтву таго, як жыць, каб здаровым быць, а таксама —як сябе трымаць, каб не заразіцца ад хворага і самому не заразіць другіх, калі захварэеш. Дактары вядуць работу па вывучэньню тых шкодных уплываў, якія абкружаюць рабочага—на заводзе і прадпрыёмстве, селяніна—у яго быту.

Акрамя таго, у савецкую мэдыцыну уваходзяць зусім новыя галіны— ахова мацярыкства і дзяцінства.

Нарэшце, мэдыцына становіцца агульнапрыступнай, бясплаткай для рабочых і сялян.

Першыя гады пасьля рэвалюцыі прайшлі ў рабоце па перабудове і прыстасаваньні старое мэдыцыны да новых вымаганьняў жыцьця. Аднак, гады, грамадзянскай вайны і руйнаваньня паслужылі перашкодай к правядзеньню мерапрыемстваў па аздараўленьню насельніцтва. Лекавыя установы быўшага земства, тым часам, руйнаваліся, абсталяваньне іх рабілася няпрыгодным і ня было ніякай магчымасьці іх аднавіць і пераабсталяваць.

Толькі з канца 1923 году, калі уводзіцца цьвёрды бюджэт, становішча пачынае зьмяняцца к лепшаму. З году ў год сродкі на ахову здароўя павялічваюцца, што дае магчымасьць аднавіць старую сетку, пераабсталяваць яе, адчыніць новыя лекава-санітарныя установы.

**Што мы маем к дзесятаму Кастрычніку.** К дзесятай гадавіне Кастрычніка мы на раёнах маем ужо 20 больніц (замест існаваўшых пры земстве 15) з лікам ложкаў ў 431. Кожны раён мае больніцу з зубным габінэтам. Колькасьць доктарскіх пунктаў павялічылася да 23, а фэльчарскіх—зменшылася да 14.

Адзін ложак у сельскай мясцовасьці прыпадае на 1900 чалавек; вёску абслугоўваюць 61 доктар, адзін доктар прыпадае на 13000 чалавек (супроць 45 тысяч да вайны). На раёнах працуюць 75 акушэрак, 23 зубных дактары і 77 фэльчароў.

Акрамя таго, вёска атрымала зусім новыя установы па ахове мацярынства і маладзенства, якіх ня было пры земстве: 34 дзіцячых ясьляў 7 дзіцячых кансультацый, 1 дзіцячы дом.

У акруговым горадзе працуюць па-старому тры больніцы, але лік ложкаў у іх павялічыўся да 615 і, такім чынам, агульны лік ложкаў па акрузе павялічыўся супроць даваеннага часу у паўтары разы. Магілеў яшчэ мае 4 доктарскіх амбуляторыі, 3 дзіцячых больнічкі, дом дзіцяці, дзіцячую кансультацыю, дзіцячыя ясьлі.

Мы яшчэ адчынілі такія новыя акруговыя установы, як сухотны дыспансэр, вэнэрычны дыспансэр, рэнтгенаўскі габінэт.

Аптэк існуе 20, з якіх 16—па раёнах, усі яны знаходзяцца у веданьні інспэктарыята аховы здароўя.

К канцу дзесяцігодзьдзя большасьць лекавых установаў капітальна адрамантавана і папоўнена інвэнтаром, абсталяваньнем і інструмэнтамі.

Бюджэт аховы здароўя, бязумоўна, узмацніўся і значна вырас. У параўнаньні з даваенным часам на мінулы (1926-27) год адпушчана утрое больш—1 мільён 246 тысяч рублёў. Супроць бюджэту папярэдняга году ён павялічыўся на 76 процантаў.

Такім чынам, мы ва усіх адносінах пасунуліся уперад у параўнаньні з даваенным часам.

**Вёска—аздараўляецца.** З вышэй пададзенага відаць, што на санітарна-лекавую дапамогу вёсцы зьвяртаецца належная увага.

Дзякуючы культурна-асьветнай і санітарнай працы на сяле (асаблівая увага зьвярталася на тыя месцы, якія зьяўляліся асяродкамі пошасьці, адкуль пачыналася хвароба), санітарнае становішча нашае вёскі палепшылася. З правядзеньнем пасялковага расьсяленьня сялян зьнішчваецца скучанасьць і тым паляпшаецца санітарнае становішча. Сяляне імкнуцца да пакаёвай сыстэмы, з выдзяленьнем рускае печы (пяцісьценка) і з вэнтыляцыяй. Адносна водазабясьпечаньня асаблівых посьпехаў няма: вёска усё яшчэ карыстаецца вадою з адчыненых капаных калодзежаў, але яны у большасьці

прыводзяцца у парадак, абчышчаюцца, усоўваецца ўсё тое, што можа забрудзіць у іх ваду.

Паказальнікам санітарнага стану вёскі зьяўляюцца эпідэмічныя хваробы (пошасьці). У гады грамадзянскай вайны мы мелі вялізныя эпідэміі сыпнога і зваротнага тыфусу і шкарлятыны. За апошнія-ж гады па акрузе зусім ня было выпадкаў зваротнага тыфусу. Сыпны тыфус, а таксама шкарлятына ўсё шлі на зьмяншэньне.

У 1926 годзе эпідэмічныя захварэньні складалі толькі 23 на тысячу чалавек.

**Чарговыя пляны**. Па пяцігадоваму пляну намячаецца зрабіць наступнае. Пабудаваць сетку больніц і доктарскіх пунктаў з такім разрахункам, каб кожнай вёсцы да доктара было ня далей, як 10 кілёмэтраў (9 вёрст). Каб адзін доктар прыходзіўся на 12 тысяч чалавек, а адзін) ложак—на 1200 чалавек.

Зусім скасаваць фэльчарскія пункты і фельчароў замяніць дактарамі. Арганізаваць пры больніцах заразныя баракі. Таксама неабходна, каб у кожным раёне была кансультацыя з прыёмам для цяжарных жанчын і дзяцей. Павялічыць колькасьць дзіцячых яcьляў да трох на кожны раён. У кожным раёне будзе абавязкова адна аптэка.

Па санітарнай частцы—неабходна даць кожнаму раёну санітарнага доктара (з дэзынфэкцыйнымі устаноўкамі).

# З падзей 1917 году.

## Між Лютым і Кастрычнікам.

Пэрыяд у 8 месяцаў між лютым і кастрычнікам 17 году быў для сялянства Магілеўшчыны часам палітычнай вучобы.

Першыя дні пасьля тяго, як скінулі цара, сяляне ў большасьці ня ведалі што рабіць. Нечаканая равалюцыя выбіла іх з нармальнай каляіны жыцьця, натаўхнула на нейкія новыя шляхі, але-ж гэтыя шляхі былі яшчэ для іх надта няяснымі і туманнымі.

Расплюшчыць свае вочы і перайсьці да новых запатрабаваньняў дапамагла сялянству агітацыя прадстаўнікоў разных партый.

Ужо з першыях-жа дзён лютаўскай равалюцыі на вёску зьяўляецца, асабліва ў валасныя цэнтры, багата „дземакратаў“, як пакульшто звалі усіх без выключэньня агітатараў з гораду. З іх хутка выбіліся ў цэнтр увагі эс-эры. якія пачалі засноўваць па вёсках свае ячэйкі.

Намі сабраны матар‘ялы, малюючыя гэты пярыяд па быўшых валасьцёх Ново-Быхаўскай, Глухскай, Бялініцкай, Вендараскай, Расьнянскай, Чыгірынскай і Далгамохскай,—часткай поўнасьцю па ўсіх населеных пунктах, часткай—па некаторых вёсках, ці толькі мястэчках.

Гэты матар‘ял паказвае, што ужо з красавіка месяца па мястэчках і буйнейшых вёсках засноўваюцца эс-эраўскія арганізацыі. У м. Новым-Быхове, прыкладам, арганізацыя іх ствараецца яшчэ ў сакавіку. На чале яе становіцца валасны пісар Падабед і некаторыя настаўнікі.

Арганізацыя вядзе шчырую прапаганду за ўступленьне у яе сялян. Але-ж ня гледзячы ні на якія хітрыкі, дарослыя сяляне ніяк у эс-сэры ні запісываліся. Слухаць-то яны іх слухалі, але-ж вялікай веры у іхных словы не выказвалі. І ў арганізацыю ўцягваецца толькі мясцовая інтэлігенцыя ды саўсім яшчэ „палітычна зялёная“ сялянская моладзь. Трэба дадаць, што і гэтая частка моладзі сялянскіх інтарэсаў ні ў якім разе не адбівала.

Мэтад уцягненьня моладзі ў эс-эраўскую арганізацыю быў просты. Зьбіраецца група моладзі ў валаснoе праўленьне. Так, прыходзіць без усякай мэты, „ад нечага дзелаць“. Заўважыўшы іх, выходзіць хто-небудзь з эсэраўскай арганізацыі, падсядае да іх. У руках трымае газэту.

— Ах, добра піша Чарноў,—пачынае ён, паказваючы артыкул аб сялянстве і зямле Чарнова, ці каго-нібудзь з эс-эраў, і з захапленьнем перадае зьмест артыкула.

Моладзь цікавіцца, задае пытаньні.

— А вось вам трэба-б было выпісаць сабе газэту. Только выпісвайце беспраменна вось гэтую, ворган партыі эс-эраў.—І тут ён у некалькіх славах агітуе за сваю партыю.

— Ну, хто хоча выпісаць газэту?—запытвае ён.—Адзін-два хлапцы вымаюць грошы. Ён бярэ, запісвае прозьвішчы і адрас, гавора, што праз тыдзень ужо будзе і газэта, і потым зварачаецца спэцыяльна да здаўшых падпіску.

— Вось што, хлопцы! Каб запраўды быць актыўным удзельнікам жыцьця, трэба ня толькі чытаць газэту, а і пісаць у яе аб нашым жыцьці, прыглядацца да жыцьця, вывучаць яго, працаваць. Вы-хлопцы сьвядомыя! Ня можна вам быць беспартыйнымі. Запісвайцеся ў пар-

тыю! Уступны ўзнос —рубель, кожны месяц—па 10 капеек; партыйны яшчэ павінен выпісваць газэту, дык вы ужо падпісаліся і так.

Яшчэ накалькі слоў... Ён абмалёўвае хлапцам, што ў арганізацыях людзі вучацца палітыцы і іншым цікавым рэчам. І ўрэшце хлапцоў некалькі запісваюцца. Тут-жа ўносяць узносы.

— Калі-ж будзе пагуляць, калі пачнуцца без канца пасяджэньні?— адгаварваюцца іншыя з кампаніі.

— Дык пасяджэньні-ж нас ня так і часта,—з уздымам зазначае агітатар і жартуе:—справціеся пагуляць з дзяўчатамі!

Урэшце здаволен ён і здаволены новаўступіўшыя сябры.

Усё-ж ткі эс-эры карысталіся з пачатку равалюцыі сярод сялянства такім-сякім аўтарытэтам Яны прыгожа расьпісвалі сваю падпольную працу сярод сялян пры цару і будучыя часы пасьля устаноўчага сойму. Саўсім ня можна гэтага сказаць пра меншавікоў. Сяляне даволі хутка навучыліся разьбірацца ў розных партыях, хоць, бязумоўна, і павярхова. І меншавікоў ня ўзьлюбілі.

Прыблізна ў чэрвені 17 года на мітынгу ў Бялынічах (здаецца на Пятра) сяляне ня далі гаварыць меншавіку. У жніўні месяцы ў г. Быхаве на выбарчым сходзе ў земскую управу выступіў меншавік Вазіла. Ён толькі і пасьпеў сказаць:

— Мы, сацыял-дэмакраты...

—Далоў сацыял-дэмакратаў!—залямантавалі ўсе і ня далі гаварыць.

Вядомы прыклад такой-жа няпрыхільнасьці сялян да меншавікоў і ў іншых мясцох. Праўда, былі і іншыя выпадкі, але галоўным чынам там, дзе слаба праводзілася эс-эраўкая агітацыя. У с. Эсьман, Бялыніцкага раёну, значнай прыхільнасьцю карыстаўся сын мясцовага папа, меншавік. Перад самай Кастрычнікавай равалюцыяй ён перецягнуў быў на свой бок большасьць сялян. Праўда, тут некаторае значэньне мела, як быццам, і яго пахаджэньне, бо народ там быў даволі значна рэлігійны. Трэба адзначыць: чым больш прыхільна адносілася да яго заможная частка сяла, тым больш яго узьненавідзела бедната.

Карыстаўся значным аўторытэтам у м. Новым-Быхаве меншавік, мясцовы грамадзянін Пятрок Дзергачоў. Гэта ўзноў-ткі тлумачыцца ня прыхільносьцю сялян да меншавіцкай праграмы, а тым, што яго ўсе ведалі па падпольнай працы да равалюцыі. Апрача таго, ён быў мясцовы селянін (пробаваў працаваць і на заводзе), а мясцовыя эсэраўскія элемэнты ў большасьці былі інтэлігэнты, а да равалюцыі— манархісты.

Зрэдку дзе на Магілеўшчыне паказваліся анархісты. Здаецца, што за выключэньнем г. Быхова і яго бліжэйшіх вёсак, іх нідзе больш і ня было. Але, ў гэтых апошніх некоторы посьпех іхная агітацыя мела. Даволі значны посьпех, між іншым, быў іх у вёсках Гарадзец і Седзіч, дзе нават некалькі галасоў было падана за іх пры выбарах у Устаноучы Сойм. У самім г. Быхаве група анархістаў была нязначная і складалася бадай што выключна з матросаў.

За анархістамі ішла моладзь асаблівага тыпу—„ганаровыя ўцекачы". Справа ў тым, што ў багата якіх вёсках, пачыпнаючы з самага пачатку вайны, а асабліва пасьля прызыву 1896 г. (май 1916 г.) і 1897 г. параджэньня (жнівень 1916 г.) зьявіліся ўцекачы, якія ні воднага дню не праслужылі ў арміі. Езьдзілі толькі па перасыльных пунктах, палучалі абмундыраваньне, прадавалі яго і варочаліся на нейкі час дамоў. Але-ж дома жыць была небясьпечна, і прыходзілася ванд-

равать па суседніх вёсках. Жылі і харчаваліся яны на „кватэрах“, дзе зьбіраюцца на-начкі дзяўчаты. Гэтыя дзяўчаты хавалі іх ад паліцыі, якая ганялася за імі, і, між іншым, надта шчыра кахалі. Такія „вечныя дэзэртыры“ былі добра ваaружаны і часам, сабраўшыся у адным месцы. аказвалі ўзброенае супраціўленьне паліцыі. У некаторых вёсках у іх былі проста цэлыя атрады, і туды паліцыя бадай што не заглядвала. Славіліся па ўсёй Магілеўшчыне з такіх вёсак як раз гэтыя-ж: Гарадзец, Седзіч, Вець, Гута, Канава і Іскань.

Пасьля равалюцыі ўсе яны даволі арганізована накіраваліся разам у Гомель. Там іх выстраілі, сказалі прамову. падзякавалі, што яны не хацелі ваяваць за цара, абмундыравалі і ўсіх адпусьцілі на месяц дамоў з умовай праз месяц паехаць на фронт. Здаецца, адна кжа, што ніхто з іх на фронт не паехаў, а жылі давалі адчынена дома і вось, як бачым, далучаліся да анархістаў.

Лічыць іх прадстаўляючымі сялянскія інтарэсы ня прыходзіцца, бо сяляне наадварот самі баяліся іх, як агню. Значыць, масавага значэньня анархічныя імкненьні ніякога не набылі.

Бальшавікі зьяўляюцца на вёсцы даволі позна—у ліпені, жніўні месяцах. І ў пачатку сялянства сустрэла іх неяк недаверчыва. Але вельмі хутка погляды іх на бальшавікоў саўсім зьмяніліся.

У нейкі сьвяточны дзень (на Пятра?) у с. Чыгірынку неадкуль зьявіўся бальшавік. На мітынгу на вуліцы каля валаснога праўленьня яго прамову сустрэлі маўчаньнем. Але як раз у канцы яго прамовы загарэлась недалёка адна хата. Ён першым пабег на пажар і арганізоўваў там затушваньне. Толькі пасьля гэтага сяляне зазначылі, што— „гэта чалавек свой“ і яму можна верыць.

У с. Эсьман (вышэй пісалася) сяляне, якія ў большасьці ішлі за меншавіком-паповічам, адразу адыйшлі ад яго, як толькі да іх зьявіўся большавік—з прапановай забраць панскую зямлю.

У м. Нова-Быхаў зьявіўся неадкуль на мітынг бальшавік-матрос у верасьні месяцы. Бальшавікоў да гэтага часу тут яшчэ ня было. Старшыня мітынгу, мясцовы жыхар С. Дзергачоў ( таксама матрос) паведаміў, штоб слухалі уважліва:—Будзе нешта казаць тав. бальшавік. Прамова была выслухана вельмі ўважліва Пасля яе выступіў рэзка супраць адзін мясцовы ахвіцэр. Але яму дагаварыць ня далі. Выступіў далей т. С. Дзергачоў і з апалам заявіў:

— Я, таварышы, левы эс-эр! Я бадай што бальшавік! І заяўляю, што таварыш матрос гавора справядліва. Зараз вам таварыш прачытае рэзалюцыю.

Была зачытана бальшавіцкая рэзалюцыя. Прагаласавалі. З 300-400 галасоў—толькі 4 супраць (і то 1 ахвіцэр і 3 настаўнікі).

Чым бліжэй к Кастрычніку, тым больш рэвалюцыйнай робіцца сялянская маса. У жніўні месяцы праводзілась перапісь выбаршчыкаў у Устаноўчы Сойм. Перапішчык, малады хлапец, які толькі што запісаўся ў партыю эс-эраў (правых), па свайму раёну ўперад перапісаў 7 хольваркаў за дзень, а на вечар пакінуў сабе перапісаць сяло Тайманава. Думаў,—каб лягчэй было сабраць сялян. Прышоў туды под вечар, сабраў выбаршчыкаў. Сказаў прамову аб значэньні перапісі, ды тут выступіў супроць яго салдат-бальшавік.

— На што ты ўперад. хадзіў па панох?—запытаў ён. (а ўсе гэтыя 7 хольваркаў знаходзяцца па суседству з Тайманавым)—ня будзем перапісвацца!

Сяляне зашумелі... Паспробваў ён адгаварвацца, ды з дуру і ляпнуў, што паны—таксама людзі

Толькі гэты бальшавік (т. Задарожны) і спас яго, а то разьюшаныя сяляне прыбілі-б яго. Так і прышлось уцекчы адтуль бяз перапісі. А перапішчыкам туды паслалі ўжо таксама эс-эра, але чалавека пажылога і даволі аўтарытэтнага.

Урэшце трэба адзначыць і што-колечы аб дзейнасьці Беларускай Сацыялістычнай Грамады па Магілеўшчыне. Ведаў аб гэтым маецца мала, бо нацыянальны беларускі рух у нас мала быў пашыраны.

Магілеўскі „беларускі нац. камітэт“ ў сваіх адозвах і лістоўках да насяленьня праводзіць усюды думку: „Беларусь—толькі для беларусаў“. Адсюль выбягае і вузка-нацыяналістычны настрой іх і больш-менш разьвінуты антысэмітызм. Так, у адной з сваіх адозваў, якая між іншым, значна пашырана была і па вёсках, аб выбарах беларусаў у гарадзкія муніцыпальныя установы, камітэт горка жаліцца на тое, што беларускае насяленьне жыве ў гарадох на акраінах, а цэнтр гораду засяляюць людзі іншых нацый.

Такія-ж ухілы зазначаліся і ў тых маленькіх беларускіх арганізацыях, якія заснаваліся па вёсках.

Так, Нова-Быхаўская белар. арганізацыя мела даволі выразны антысэмітычны настрой. Складалася яна з 5 ч. інталігэнцкай моладзі. Яны выпісвалі, а часткай дарма палучалі ад нац. камітэту беларускую літаратуру і вялі прапаганду ў масах беларускіх ідэй. Посьпехам бадай што нідзе ніякім не карысталіся ды і нідзе афіцыйна не выступалі. Пры выбарах у Устаноўчы сойм яны толькі угаварылі галасаваць за беларускі сьпіс свае сем'і. Пры выбарах дэпутата на усебеларускі зьезд яны толькі прыватна асабіста-знаёмым гаварылі нешта перад выбарчым сходам. Часткова такія адносіны іх да справы тлумачацца яшчэ і тым, што ні водзін з іх ня мяў 20 гадоў, а значыць і ня мог галасаваць на выбарах.

У с. Ісопках беларускую пропаганду правадзілі 2 заможных шляхціцы Курыловіч і Паўлоўскі. У с. Сяльцы-Халапееўскім і Іскані выбары на Усебеларускі зьезд былі сустрэчаны радасна, з надзеяй, што пасьля яго з Беларусі выселюць усіх небеларусаў і г. д. Такія формы прыймаў у нас беларускі рух.

Цікова адзначыць, што па Магілеўшчыне (Пропойск, Быч) былі спробы меншавікоў утварыць сацыялістычныя саюзы моладзі.

З іх Бычанскі саюз меў пэўны культуртрэгерскі, чыста інтэлігенцкі ухіл і складаўся выключна з кулацкай моладзі, бацькі якіх мелі па 30—50 дзес. зямлі. Арганізатар гэтага саюзу пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі застраліўся.

Вялізная партыйная барацьба разгарэлася ў часе выбараў у Устаноўчы Сойм. Усюдых посьпехам карысталісь эс-эры. За бальшавікоў галасавалі ці салдаты-франтавікі ці шахцёры, як то было. прыкладам, ў Новым-Быхаве і Чыгірынцы. У Н.-Быхаве, напр., адзін салдат падрыхтаваў сьпіс бальшавіцкі. Поп Г. Цытовіч , сябра камісіі, спыняе яго і говора, ці не памыліўся ён, што галасуе за бальшавікоў, а ня эс-эраў. Салдат выкарыстаў гэта для агітацыі.

— Я сам галасую за бальшавікоў і ўсіх разумных людзей заклікаю да гэтага.

Настаўніца в. Нямкі, Чыгірынскай вол., ўкідвачы ў выбарчую скрыню сьпіс, агітавала за партыю кадэтаў.

Усяк было... Урэшце, ад Магілеўшчыны ў Устаноўчы Сойм прайшло 11 эс-эраў, 2 бальшавікі, 1 кадэт і 3 меншавікі і бундаўцы.

# Кастрычнік на вёсцы.

К кастрычнікавым дням па вёсках зьявілася багата салдат і матросаў, настроеных па-бальшавіцкі. Яны ўсюдых бадай што без выключэньня і кіравалі зямельнай рэвалюцыяй у межах вёскі і разгромам хольваркаў паноў. З іх былі розныя. І такія, што задоўга да Кастрычніка заклікалі сялян да разгрому хольваркаў і перадзелу панскага дабра і самасуду над заможнымі шляхтамі (салдат Кірыленка ў с. Істопках). І такія, што хацелі захаваць у цэласьці хольваркі, як народнае дабро, на будучы час (нейкі матрос, напр., у с. Галавенчыцах, Чавускай вол., які заплакаў, калі сяляне рашылі перадзяліць між сабой панскае дабро, разграміўшы хольварак). Таму і характар сялянскай рэвалюцыі ў разных мясцох быў розны.

У абсалютнай большасьці вёсак разгром хольваркаў адбыўся стыхійна. Хто што хацеў—тое сабе і браў, не інтарасуючыяся іншымі. У некаторых хольварках, разьбіраючы панскае дабро, кожны клапаціўся толькі пра сябе, у другіх—разьмяркоўвалі ўсё рухомае дабро і падпальвалі будынкі.

Вось некаторыя малюнкі па апавяданьнях удзельнікаў:

„Вакол в. Усушак багата ўсякіх хольваркаў. Грабіць іх накінуліся сяляне неарганізавана, білі і ламалі ўсё бяз усякай мэты,—вокны, печы, кніжкі. Хольваркі падпальвалі. Толькі у адным з іх нейкі атрад адразу-ж паставіў варту і зьбярог народнае дабро“.

„У хольварку каля вёскі Гарадзец жыў рандатар, які з сялянамі быў у добрых адносінах. У яго сяляне нічога не кранулі ні з яго асабістай, ні з панскай маёмасьці. Толькі ўжо ў канцы 17 году яго абакралі ноччу“.

„З мястэчка Расны грабіць паноў хадзіў толькі 1 чел., які напрыносіў дамоў падушак і інш. дробязі. Сяляне-ж суседніх вёсак разграбілі ў суседнім хольварку ўсё і спалілі багатую польскую бібліятэку. У часе разгрому была пашырана антысэміцкая агітацыя“.

„ У Карме шукалі сяляне аб‘ежчыка, каб забіць, але абдумаліся. У в. Рудне адбыўся стыхійны і бесталковы грабёж хольварку, у грабяжы актыўны удзел прыймалі кулакі, бедната сядзела спакойна“.

„ У вёсцы Навасёлках і Істопках сяляне на сходах пастанавілі разграбіць хольваркі, і грабілі іх дружна. Пры грабяжы хольв. Сялец Пракаповіча (вядомага „эканаміста“) ён толькі папрасіў сялян кінуць яму кніжкі. Кніжкі пакінулі“.

„ У Бялынічах хольварак падпалілі і грабілі з гарашчага дому“.

„У вёскі Нямкі сяляне разграбілі хольв. Булгака. Але-ж к канцу грабяжу падыйшоў нейкі атряд, які стаў там на варце“.

„З мястэчка Новага Быхава грабіць паноў пайшлі выключна кулакі і розныя ўгалоўныя тыпы“.

„Грабіць Журавіцкага пана выехала на падводах група сялян з вёскі Лазаравіч уночы. Пан пачаў па іх страляць з вакна і забіў 18-гадовага сына сел. Яўсеева. Сяляне спалохаліся і кінуліся уцякаць, захапіўшы на воз труп забітага. Па дарозе труп кінулі ў Дняпро, і дома ў сваёй вёсцы доўгі час не прызнаваліся, куды дзеўся той хлапец“.

Гэтых малюнкаў, па-нашаму, досыць, каб сабе уявіць ход сялянскай рэвалюцыі ў першыя дні пасьля Кастрычніка. У далейшым рэвалюцыя пераносіцца унутр самой вёскі. Пачынаецца даволі лютая барацьба між кулацкай і бядняцкай часткай вёскі.

# ЗЬМЕСТ.

Старонка.

На шляхох узросту сацыялістычныга будаўніцтва ў акрузе . . 3

10 год Савецкай улады ў Магілеўшчыне . . . . . . . . . . 6

Люстра нашага росту (мясцовы бюджэт) . . . . . . . . . . 13

Сельская і лясная гаспадарка акругі . . . . . . . . . . . 16

Наша прамысловасьць . . . . . . . . . . . . . . . . . . 32

Камунальнае будаўніцтва ў акрузе . . . . . . . . . . . . 41

Гандаль і каапэрацыя . . . . . . . . . . . . . . . . . 44

Народная асьвета . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 49

Ахова здароўя . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 56

Дадатак: З падзей 17 году . . . . . . . . . . . . . . 59

---

Магакрліт. № 367 Мог. тип. „Соха и Молот"
з. № 417, т. 2000.

